# Алесь БЯЛЯЦКІ:

# «МЫ ПЕРАХОДЗІМ З АБАРОНЫ Ў НАСТУПЛЕНЬНЕ»

**Напярэдадні правядзеньня III Асамблеі мы папрасілі адказаць на некалькі пытаньняў старшыню Рабочай групы Алеся Бяляцкага.**

*— Спадар Алесь, як Вы бачыце ролю Асамблеі Няўрадавых Дэмакратычных Арганізацыяў у яднаньні суполак трэцяга сэктару?*

— Галоўная мэта недзяржаўных дэмакратычных арганізацыяў — адрадзіць незалежнасьць Бацькаўшчыны і ўсталяваць дэмакратыю. Нашая ж задача — па меры магчымасьці з дапамогай інфармаваньня, пэўных праектаў вызначаць асноўныя напрамкі дзейнасьці недзяржаўнага сэктару ў Беларусі. Хацелася б, каб арганізацыі былі больш актыўнымі, больш заўважнымі, каб кожная арганізацыя бачыла неабходнасьць у існаваньні Асамблеі, бо толькі ў адзінстве мы можам дамагчыся выкананьня сваёй мэты.

*— Якія пытаньні будзе вырашаць III Асамблея?*

— Галоўнае пытаньне — абарона трэцяга сэктару, недзяржаўных дэмакратычных арганізацыяў ад уціску ўладаў. Будуць разгледжаны таксама пытаньні структурызацыі, асноўныя палажэньні ўнутранай работы, абмеркаваньне працы Рабочай групы, Выканаўчага бюро, удасканаленьне іх працы; не застанецца па-за ўвагаю тактыка і стратэгія працы АДНА ў наступным годзе, годзе прэзыдэнцкіх выбараў. Арганізацыі абмяняюцца вопытам, удакладняць і ўзгодняць свае пазыцыі па пытаньні гэтых выбараў.

*— Спадар Алесь, якія адносіны мае Асамблея з БНФ і іншымі арганізацыямі — пачынальнікамі дэмакратычнага руху?*

— Справа ў тым, што трэба адрозьніваць недзяржаўныя арганізацыі ад партыяў. Але ж мы таксама ўвайшлі ў КРДС, як і партыі, і прафсаюзы, і рэгіянальныя аб'яднаньні, у якой ідзе абмеркаваньне грамадзка-палітычных праблемаў. І тое, што мы ўвайшлі ў КРДС, гаворыць аб аўтарытэце Асамблеі ў грамадзкім жыцьці краіны, а таксама дазваляе адстойваць інтарэсы недзяржаўных арганізацыяў.

Адносіны ж з партыямі, пра якія ішла размова, — канструктыўныя, рабочыя; кожны займаецца сваімі справамі. Натуральна, што мы не зьбіраемся падмяняць партыі, як і яны нас.

*— Як Вы ацэньваеце прайшоўшыя выбары ў Палату прадстаўнікоў?*

— Асамблея Недзяржаўных Дэмакратычных Арганізацыяў актыўна ўдзельнічала ў іх байкоце; значная большасьць арганізацыяў, якія ўваходзяць у нашу Асамблею, падтрымала байкот. Калі стала зразумела, што міжнародныя арганізацыі сваіх назіральнікаў не прышлюць, мы прынялі такое рашэньне ўдзельнічаць ў назіраньні за выбарамі, ведаючы, што ўжо не справакуем легітымнасьць гэтага выбарчага фарсу. Што ж тычыцца акцыяў, якія спрыялі актывізацыі байкоту, дык, на маю думку, адна з самых ўдалых з іх — «Сабачыя выбары».

Шматлікія арганізацыі Асамблеі тлумачылі неабходнасьць байкоту ў сваіх выданьнях, бралі ўдзел у акцыях аб'яднанай дэмакратычнай апазыцыі. У выніку назіраньня падцьвердзілася, што адбыліся не выбары, а фарс...

*— Як мяркуе Асамблея рыхтавацца да прэзыдэнцкіх выбараў?*

— Па-першае, працягваюцца яшчэ цяпершанія выбары і, значыць, нам трэба ва ўмовах інфармацыйнай блякады распавядаць людзям, што на самой справе адбываецца, хто перамог, якія пэрспэктывы наперадзе. Прынамсі, я ўпершыню за некалькі гадоў адчуў, што мы атрымалі не тактычную, а стратэгічную перамогу, якая дае магчымасьць падрыхтавацца да прэзыдэнцкіх выбараў.

Па-другое, вызначэньне адзінага кандыдата ад дэмакратычных сілаў — гэта перадумова для пасьпяховага ўдзелу ў кампаніі. Канкрэтнага ж кандыдата аб'яднаная дэмакратычная апазыцыя павінна вызначыць да Калядаў.

*— Спадар Алесь, ці ёсьць у Вас папярэднія меркаваньні па асобе гэтага кандыдата? Як ён будзе вылучацца?*

— Пакуль рана казаць — будуць гэта ўнутраныя выбары ці нешта іншае. Існуюць розныя схемы, зь іх трэба зацьвердзіць адну — ці выбары, ці вылучэньне іншым шляхам. А што датычыць канкрэтнага кандыдата, дык у Беларусі ёсьць некалькі палітыкаў, якія могуць скласьці канкурэнцыю Лукашэнку і перамагчы яго. Наша мэта — каб ад аб'яднанай апазыцыі на выбары ішла адна асоба, а ня дзесяць-дваццаць.

*— Ці ёсьць у шэрагах Асамблеі арганізацыі, якія не падтрымалі байкот выбараў?*

— Такія арганізацыі ёсьць. Мы ж не адзіная партыя, рашэньні Асамблеі ня носяць абавязковага для выкананьня характару. Мы ня маем праву і не зьбіраемся выключаць з Асамблеі такія арганізацыі. Але хачу паўтарыць, што значная большасьць нашых сяброў падтрымала пазыцыі байкоту.

*— Спадар Алесь, якія акцыі плянуюцца Асамблеяй у бліжэйшы час?*

— Сэрыя акцыяў, распачатая «сабачым мітынгам», працягваецца. Наступная адбудзецца 10 снежня — Дзень прыняцця Усеагульнай Дэклярацыі правоў чалавека. У гэты дзень нашыя арганізацыі — найперш праваабарончыя — выставяць пікеты па ўсёй краіне; у Менску пройдзе мітынг, прысвечаны парушэньню правоў чалавека ў Беларусі. Заклікаю і іншыя, ня толькі праваабарончыя арганізацыі, далучыцца да гэтай акцыі.

*— Пытаньне філязофскага характару: на Ваш погляд, на якім агульным падмурку аб'ядналіся арганізацыі такога рознага накірунку дзейнасьці – краязнаўчыя, экалягічныя, асьветніцкія, спартовыя, нават рыцарскія?*

— Існуе пагроза для беларускае дзяржаўнасьці, для дэмакратыі, адважная пагроза з боку дзяржавы для арганізацыяў трэцяга сэктару. Самое існаваньне Асамблеі даказала, што аб'яднаным арганізацыям зручней бараніцца, гэта падцьвердзіла і кампанія «SOS», якая была арганізаваная АДНА. Адзін з камянёў гэтага падмурку — клопат Асамблеі пра агульныя інтарэсы трэцяга сэктару. Прычым, калі казаць пра тую ж акцыю «SOS», дык гэта была, скажам так, «абарона ў абароне». Цяпер жа, праводзячы байкот выбараў, плянуючы акцыю 10 сьнежня, мы пачынаем «абарону ў наступленьне». Увогуле, графік нашых дзеяньняў спляняваны на ўвесь год. І мы сапраўды, нарэшце, пяройдзем з абароны ў наступленьне.







**Напярэдадні пачатку Кангрэсу мы мусілі задаць некалькі пытаньняў кіраўнікам уплывовых арганізацыяў Трэцяга сэктару.**

## Чаго Вы чакаеце ад наступнага III Кангрэсу Асамблеі?

***Ірына Кулей, Цэнтар «Вежа»***

Магчымасьцяў для арганізацыяў-удзельнікаў распляняваць разам сваю партнэрскую дзейнасьць на бліжэйшы год. Хочацца падчас працы ярмаркі і майстэрняў пазнаеміцца зь цікавымі праграмамі і праектамі, якія рэалізуюць арганізацыім, прапанаваць магчымасьці супрацоўніцтва ў Берасьцейскай вобласьці.

***Віктар Карніенка, аб'яннаньне «Грамадзянскія ініцыятывы», Гомель***

Было б вельмі пажадана, каб III Кангрэс абмеркаваў нейкі плян канкрэтных дзеяньняў для рэалізацыі сваіх мэтаў у жыцьцё.Пераканаты, што толькі сумесная праца можа ствараць сапраўдную кааліцыю. Спадзяюся, што III Кангрэс абярэ больш працаздольную і адказную Рабочую групу, каб нікволі не ўзьнікалі праблемы з кворумам і кожны абраны добра ведаў свой кавалак працы і быў за яго справаздачны.

## Якой вы бачаце далейшую дзейнасьць Асамблеі НДА?

***Ірына Кулей, Цэнтар «Вежа»***

Ініцыяваньне і спрыяньне агульнанацыянальным праграмам:

- прававая «хуткая дапамога»;
- інфармацыйная падтрымка.

***Віктар Карніенка, аб'яннаньне «Грамадзянскія ініцыятывы», Гомель***

У Асамблеі ёсьць некалькі варыянтаў разьвіцьця. Першы - гэта быць сьцягам і сымбалем салідарнасьці дэмакратычных няўрадавых арганізацыяў. Але ня думаю, што гэта вельмі пэрспэктыўна. І другі - калі пры дапамозе ўсіх сяброў кааліцыі ўдасца стварыць эфэктыўны мэханізм калектыўнай абароны ад агрэсіі і ўлады, уключаючы збор і распаўсюд інфармацыі, юрыдычную дапамогу арганізацыям-сябрам, наладжваньне партнэрскіх сувязяў і г.д. Могуць быць спалучэньні гэтых і іншых варыянтаў. Галоўнае, на III Кангрэсе дакладна вызначыцца ў мэце і практычных накірунках дзейнасьці Асамблеі.

## Вашыя прапановы да паляпшэньня працы Асамблеі ўвогуле і Выканаўчага бюро ў прыватнасьці.

***Ірына Кулей, Цэнтар «Вежа»***

Выкананьне прынцыпаў, заяўленых Асамблеяй ад пачатку існаваньня;

- адказнасьць кожнага сябра па ўзятых на сябе абавязках;
- выкананьне мэханізмаў працы.

Выканаўчаму бюро: пажаданьне працоўнай ініцыятывы, кантакт зь сябрамі як мага часьцей, адказнае справаводзтва як папяровае, так і агульнае.

***Віктар Карніенка, аб'яннаньне «Грамадзянскія ініцыятывы», Гомель***

Адказ на гэтае пытаньне можна даць толькі ў залежнасьці ад рашэньняў Асамблеі па другім пытаньні.




КОЛЬКАСЬЦЬ БЕЛАРУСКІХ ШКОЛАЎ І КЛЯСАЎ КАТАСТРАФІЧНА СКАРАЧАЕЦЦА

Першага верасьня, калі ў Беларусі адзначаецца Дзень ведаў, навучаньне па-беларуску пачалося толькі ў 4-х са ста менскіх школьнікаў. Калі яшчэ шэсьць год таму, у 93-94-м гадах, беларускамоўнае навучаньне праходзіла ў блізу 60% першаклясьнікаў, то зараз гэтая лічба апусьцілася да 4%. Са свайго боку бацькі менскіх школьнікаў не жадаюць аддаваць сваіх дзяцей навучацца па-беларуску. Як тлумачаць у Таварыстве Беларускай Мовы, падобныя тэндэнцыі справакаваныя дзяржаўнай палітыкай у галіне адукацыі. Бацькам не даводзяцца плюсы атрыманьня адукацыі на беларускай мове, часьцей за ўсё адбываецца адваротны ціск, палохаюць цяжкасьцямі, нагоул падрываецца прэстыж атрыманьня беларускамоўнай адукацыі.

КУЛЬМІНАЦЫЯ НАСТУПАЕ, ЯКОЙ БУДЗЕ РАЗЬВЯЗКА?

Усё больш складаная сытуацыя абмалёўваецца ў Беларускім Хэльсынскім Камітэце. На агульным сходзе Менскага аддзелу праваабарончай арганізацыі было вырашана выказаць недавер кіраўніку Тацяне Працько, прычым за падобнае рашэньне прагаласавала большая частка сабраных. Падобнае рашэньне матывавалася тым, што пяць прадстаўнікоў кіраўнічага органу арганізацыі прымаюць удзел у восеньскіх парляманцкіх выбарах, што зьяўляецца недапушчальным для лідараў БХК. У адказ на гэта Тацяна Працько дае зразумець, што сутнасьць канфлікту ў амбіцыях супрацоўнікаў. Спрэчка ўнутры арганізацыі працягваецца яшчэ зь сёлетняй вясны, калі 14 заснавальнікаў праваабарончай структуры заявілі аб прыпыненьні чалецтва з-за нязгоды з крокамі, якія былі прынятыя кіраўніцтвам БХК Тым ня менш, асноўная дыскусія разгорнецца ў наступную суботу 16 верасьня падчас правядзеньня Зьезду, калі пытаньне аб лёсе старшыні разам са сталічнымі праваабаронцамі будуць вырашаць дэлегаты ад рэгіянальных структураў.

БЫЎ БЫ ЧАЛАВЕК, А АРТЫКУЛ...

У Клецку 29 верасьня пры распаўсюджваньні спэцвыпуску газэты «Рабочы» каля прахадной Клецкага механічнага заводу супрацоўнікі РАУС затрымалі старшыню гарадзкой рады БНФ Яўгена Тураўца і завезьлі яго ў аддзяленьне міліцыі. Там, па словах затрыманага, міліцыянты доўга шукалі артыкул, па якім можна было б яго прыцягнуць да адказнасьці. У выніку ў Яўгена Тураўца сканфіскавалі 400 асобнікаў газэты.

СУДЫ НАД АРГАНІЗАТАРАМІ МАРШУ СВАБОДЫ-3



4 кастрычніка ў судзе Савецкага раёну Менска разглядалася адміністрацыйная справа ў дачыненьні да Людмілы Грацновай, дэпутата Вярхоўнага Савета Беларусі 13-га скліканьня. Грацнова зьявілася адным з арганізатараў «Маршу свабоды - 3» 1 кастрычніка. Яна абвінавачваецца ў публічных закліках да байкоту выбараў у Палату прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу, што гучалі падчас мітынгу на плошчы Бангалёр. Рашэньне суду будзе абвешчана 5 кастрычніка. Аналягічныя судовыя працэсы чакаюць яшчэ двух арганізатараў «Маршу свабоды» - Вінцука Вячорку і Станіслава Шушкевіча. Аднак пакуль супрацоўнікі міліцыі не змаглі ўручыць ім позвы ў суд асабіста.

ЦІ ВЕДАЕШ ТЫ СВОЙ ГОРАД?

Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны распачало праграму «Ці ведаеш ты свой горад!». Праграма будзе рэалізоўвацца на працягу года сярод студэнтаў Беларускага унівэрсытэта культуры, Тэхналягічнага унівэрсытэту і старшаклясьнікаў. Сярод моладзі будуць праведзеныя разнастайныя конкурсы на веданьне гісторыі і культуры свайго гораду. А. Трусаў, К. Тарасаў і інш прачытаюць у навучальных установах лекцыі. У межах праграмы для студэнтаў і школьнікаў у кінатэатры «Зьмена» адбудуцца паказы гістарычных мастацкіх і дакумэнтальных фільмаў. Для пераможцаў конкурсу будуць наладжаныя паездкі па старажытных гарадах Беларусі.

НАВІНЫ БЕЛАРУСКАЕ МУЗЫКІ

БМА group (Беларуская Музычная Альтэрнатыва) пачынае выпускаць электронную рассылку беларускіх музычных навінаў. Паўгады таму яна была прыпыненая па тэхнічных прычынах. Жадаючыя падпісацца на рассылку могуць даслаць на e-mail bma@agava.com запыт на яе атрыманьне. Гурты, што жадаюць разьмясьціць у рассылцы інфармацыю пра сябе, могуць дасылаць яе на вышэй названы e-mail. Плянуецца, што рассылка будзе выходзіць з пэрыядычнасьцю раз на тыдзень.

8 ВЕРАСЬНЯ - ДЗЕНЬ СЬВЯТОЧНЫ. ПРАЎДА, ДАЛЁКА НЕ ДЛЯ ЎСІХ

8 верасьня прадстаўнікі апазыцыі адзначалі Дзень беларускай вайсковай славы, прымеркаваны да гадавіны Аршанскай бітвы 1514 году. У раёне плошчы Перамогі сабралося каля 800 асобаў, над натоўпам луналі два-тры бел-чырвона-белыя сьцягі. Кіраўнікам акцыі было дазволена ўскласьці кветкі да помніку Перамогі, астатніх пахадзіць каля вечнага агню міліцыя не пусьціла, падземны пераход быў ачэплены. Далей мітынгоўцы прайшлі ў парк Янкі Купалы, дзе публіку пацешылі прадстаўнікі менскіх рыцарскіх клюбаў. Кацэрту, які быў заяўлены ў прагаме, не адбылося. Праз некаторы час сабраныя пачалі разыходзіцца. Масавасьці імпрэзе надавалі шэрагі міліцыянтаў, якіх было зьвезена ў раён прашпэкту Скарыны ці ня больш, чым саміх удзельнікаў акцыі.

ЗАДЗІНОЧАНЬНЮ БЕЛАРУСКІХ СТУДЭНТАЎ ПАГРАЖАЕ ЗАБАРОНА

Задзіночаньне Беларускіх Студэнтаў 8 верасьня атрымала папярэджаньне ад Міністэрства юстыцыі РБ. Гэта ўжо другое па ліку папярэджаньне за апошнія паўгады. Як і ў сытуацыі з Аб'яднанай Грамадзянскай Партыяй, пільная ўвага ўладаў была прыкаваная да афіцыйных блянкаў арганізацыі. У першы раз выняненьне Мінюстам папярэджаньня справакавала слова «Менск» дарэформенным правапісам. У другім папярэджаньні, датаваным першым верасьня, сцьвярджаецца, што колер эмблемы, які ўтрымліваецца на афіцыйным блянку, не адпавядае зафіксаванаму ў статуце. Сябры ЗБС лічаць, што гэтыя папярэджаньні не вытрымліваюць ніякай крытыкі, а падобная рэакцыя выкліканая досыць актыўнай дзейнасьцю аб'яднаньня. Так, увесну пасьля пікетаў супраць прымусовага разьмеркаваньня і за забесьпячэньне іншагароднім студэнтам прыстойных умоваў пражываньня сябры ЗБС былі падвергнутыя ціску з боку КДБ.

БЕЛАРУСКІЯ ПАТРЫЁТЫ ВЫЯЖДЖАЮЦЬ У ЧЭХІЮ

7 верасьня Беларусь пакінула група з 12 актывістаў маладзёвых рухаў і партыяў, якія на працягу мінулага навучальнага году былі выключаныя з навучальных установаў з прычыны ўдзелу ў мітынгах і іншых палітычных акцыях. Аднак выгнаньне з унівэрсытэту стала выгодная справай: гэтыя маладыя людзі атрымалі магчымасьць працягваць вучобу па сваёй спэцыяльнасьці ў Чэхіі. Рэалізуецца гэтая праграма Маладым Фронтам ды БХК пры падтрымцы ўраду Чэхіі ды чэскай грамадзкай арганізацыі «Чалавек у бядзе». Аднак беларусы, што паехалі ў Чэхію, не зьбіраюцца гэтым паставіць кропку ў сваёй палітычнай дзейнасьці - наадварот, у Празе пачне працу беларускі цэнтар.

ПРАКТЫКАВАНЬНІ ПА СТУДЭНЦКАЕ ІНТЭГРАЦЫ

Маладзёвае грамадзкае аб'яднаньне «Задзіночаньне Беларускіх Студэнтаў» 15-17 верасня праводзіла міжнародную канфэрэнцыю «Гісторыя і пэрспэктывы разьвіцьця студэнцкіх рухаў Беларусі, Польшчы, Украіны». У канфэрэнцыі ўзялі удзел 60 чалавек, сярод якіх прадстаўнікі грамадзкіх арганізацыяў, вядомыя грамадзкія і палітычныя дзеячы і маладыя лідары студэнцкіх рухаў трох краінаў. Удзельнікі абмеркавалі ролю студэнцкай актыўнасьці ў грамадзкім жыцьці краіны, ролю СМІ грамадзкіх арганізацыяў у актывізацыі студэнтаў, формы і мэтады змаганьня за правы студэнтаў, магчымасьці рэалізацыі сваіх правоў студэнтамі зь Беларусі, Польшчы і Украіны, а таксама прыклады зь гісторыі ўзьнікненьня і разьвіцьця студэнцкіх рухаў.

У ПОШУКАХ ЖАНЧЫНЫ

14 верасьня ў Менскім музэі сучаснага выяўленчага мастацтва адбылося адкрыцьцё фотавыставы мастака Аляксандра Ліціна «У пошуку жанчыны», наладжанае сумесна з Магілеўскім грамадзкім аб'яднаньнем «Кола сяброў». Гэта выстава дэманструе творы Аляксандра Ліціна - вядомага майстры фотамастацтва, выставы якога прысьвечаныя розным бакам беларускага жыцьця і мелі вялікі посьпех ня толькі ў Беларусі, але і за мяжой.

ГЭТА ЎЖО НАВАТ НЯ СЬМЕШНА

Аб'яднаная Грамадзянская Партыя атрымала яшчэ адно, ужо пятае, папярэджаньне ад Міністэрства Юстыцыі. Прычына чарговага папярэджаньня - несвоечасовае рэагаваньне на мінулае папярэджаньне. У кіраўніцтве партыі сьцьвярджаюць, што насамрэч рэагаваньне было цалкам своечасовае. Мінюст не задаволіла, што афіцыйная папера пайшла не ад вышэйшага органу партыі, Нацыянальнага Камітэту, а ад яго прэзыдыюму. Нагадаем, мінулыя папярэджаньні былі кшталту «незаконнага інтэграваньня» электроннай адрэсы ў эмблему партыі ці няправільнага выкарыстаньня ў афіцыйным блянку словаў «Рэспубліка Беларусь». Прадстаўнікі партыі ўпэўненыя, што падобная кампанія Міністэрства Юстыцыі зьяўляецца заказной і распачатая менавіта перад парляманцкімі выбарамі, каб улады мелі інструмант ціску на адну з буйнейшых апазыцыйных партыяў Беларусі, бо для пазбаўленьня партыйнага ўтварэньня афіцыйнай рэгістрацыі дастаткова ўсяго двух папярэджаньняў.

ПЕРШАЯ Ў БЕЛАРУСІ ДЗІЦЯЧАЯ ІНТЭРНЭТ-КАНФЭРЭНЦЫЯ

На пачатку кастрычніка ў Менску прайшла 1-я ў Беларусі Міжнародная інтэрнэт-канфэрэнцыя «Дзеці сьвету - за свае правы». Арганізатарам канфэрэнцыі зьяўляецца інтэрнэт-цэнтар Беларускага саюзу моладзі пры падтрымцы Прадстаўніцтва Дзіцячага фонду ААН (ЮНІСЭФ). Галоўнай мэтай канфэрэнцыі зьяўляецца прыцягненьне ўвагі дзяржаўных і недзяржаўных маладзёвых арганізацыяў да правоў дзяцей, падвышэньне інфармаванасьці грамадзтва ў галіне правоў дзяцей.

ЗАМЕСТ НАЦЫЯНАЛЬНАГА ЎНІВЭРСЫТЭТУ - ЎРОК СА ШКОЛЫ МІЛІЦЫІ

У Маладэчне падчас правядзеньня пікету і збору подпісаў за адкрыцьцё Нацыянальнага ўнівэрсытэту быў затрыманы адзін з удзельнікаў Тадэвуш Шусьціцкі. Ён распаўсюджваў улёткі з заклікам да байкоту выбараў. Сябра БНФ пратрымалі 1,5 гадзіны ў маладэчанскім ГРАУСе, дзе правялі зь ім прафіляктычную размову, пасьля чаго адпусьцілі.

ЗАТРЫМАЛІ СЯМІДЗЕСЯЦІГАДОВАГА ДЗЯДУЛЮ

Жыхар Менску Аляксандар Карызна патрапіў у міліцыю за распаўсюд спэцвыпуску газэты «Рабочы». Сямідзесяцігадовы «парушальнік», былы вязень сталінскіх лягероў, быў затрыманы на праспэкце Францішка Скарыны ў раёне станцыі мэтро «Усход». Праз некаторы час пэнсіянэра выпусьцілі, вярнуўшы ўсе газэты. Адну міліцыянты папрасілі ўзяць сабе пачытаць.

ВЫЖЫВАНЬНЕ Ў СУЧАСНЫХ РЭАЛІЯХ

Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны рыхтуецца да правядзеньня навукова-практычнага сэмінару па выжываньню чалавека ў рэаліях сучаснай Беларусі пад назвай «Я магу жыць лепей». Плянуецца, што заняткі распачнуцца з 8 кастрычніка і будуць працягнутыя па меры камплектаваньня вучэбных групаў. Лекцыі будуць чытаць вядомыя беларускія пэдагогі, псыхолягі, вучоныя і журналісты. Да ўдзелу ў працы сэмінару запрашаюцца ўсе жадаючыя. Больш падрабязную інфармацыю можна атрымаць па тэлефоне ў Менску: 284-85-11. Правядзеньне сэмінараў стала магчымым дзякуючы матэрыяльнай падтрымцы вядомага прадстаўніка беларускай эміграцыі ў Чэхіі Вячкі Станкевіча. Апроч сэмінару ТБМ плянуе правесьці 14 кастрычніка ў менскім кінатэатры «Зьмена» рэспубліканскую канфэрэнцыю на тэму «Беларуская тапаніміка: Гісторыя і сучаснасьць», прымеркаваную да 60-годзьдзя з дня народзінаў вядомага беларускага гісторыка Кастуся Тарасава.

«БЕЛАРУСКУЮ МАЛАДЗЁЖНУЮ» ВЫКЛЮЧЫЛІ З ПАДПІСКІ

«Белпошта» не ўключыла ў свой падпісны каталёг на чацьверты квартал «Беларускую маладзёжную». Канфлікт паміж кіраўніцтвам «Белпошты» і рэдакцыяй «БМ» абвострыўся пасьля таго, як газэта з дапамогай сябраў Маладога Фронта падняла пытаньне аб тым, што яе тыраж мэтанакіравана хаваецца ад пакупнікоў у многіх шапіках.



МЕНШЫНА

НА ПІКЕЦЕ, АРГАНІЗАВАНЫМ АГП, БЫЛІ СПРОБЫ ПРАВЕСЬЦІ ЗАТРЫМАНЬНІ

16 верасьня, у гадавіну зьнікненьня віцэ-сьпікера Вярхоўнага Савета Віктара Ганчара і бізнэсмэна Анатоля Красоўскага, на месцы здарэньня прайшоў несанкцыянаваны пікет. У пікеце ўзялі ўдзел каля 20 чалавек, прадстаўнікоў апазыцыйных партыяў. На ім прысутнічалі прадстаўнікі АБСЭ. Пасьля сканчэньня пікету асобы ў штацкім спрабавалі затрымаць некаторых удзельнікаў. Падчас гэтага адбылася невялікая валтузьня, якая не дазволіла правесьці затрыманьні.

АСВАЕНЬНЕ ПРАСТОРЫ

24 верасьня ў межах Эўрапейскай кампаніі супраць глябалізацыі Фэдэрацыя Анархістаў Беларусі і Антыпартыйная група «Чырвоны жонд» ладзіла мастацка-палітычную акцыю «АСВАЕНЬНЕ ПРАСТОРЫ» пад дывізам «Сапраўдная свабода - гэта свабода творчасьці!». Больш за пяцьдзесят малады людзей прайшлі да Дзяржаўнага музычнага тэатру ў знак салідарнасці з дэманстрацыямі, якія праходзяць гэтымі днямі ў Празе пад час форуму СГА. Маладыя людзі захапілі прызначаны да зносу будынак і запатрабавалі ад уладаў належнага стаўленьня да праблемаў моладзі і да права на самавызначэньне. Пад час акцыі праходзілі канцэрты, пэрфомансы і мастацкія дзеі. Удзельнікі імпрэзы былі разагнаныя сіламі Маскоўскага РАУС г.Менску. Міліцыя паводзіла сябе надзвычай жорстка, зьбіваючы непаўналетніх, у тым ліку дзяўчат. Было затрымана чацьвёра ўдзельнікаў і двое журналістаў, у тым ліку фотакарэспандэнт газеты «Наша Свабода», у якіх канфіскавалі адзьнятыя матар'ялы. Пасля складаньня пратаколаў аб незаконным пікетаваньні ўсіх арыштаваных адпусьцілі.

У МЕНСКУ ПРАЙШОЎ «МАРШ СВАБОДЫ-3»

Дэманстрацыя прайшлася традыцыйным шляхам ад Акадэміі Навук да пляцоўкі ў парку Дружбы народу, што ў раёне плошчы Бангалёр. А 12-й гадзіне ўдзельнікі Маршу сабраліся ля Нацыянальнай Акадэміі Навук, адкуль калёна рушыла праезнай часткай праспэкту Скарыны й вуліцы Сурганава да плошчы Бангалёр. Людзі несьлі бел-чырвона-белыя сьцягі, сьцягі эўрапейскіх краінаў, паветраныя балёны, лёзунгі, расьцяжкі

Шалкевіча, Зьміцера Бартосіка, Андрэя Мельнікава ды інш. Акрамя таго, на фэст запрошаныя Уладзімер Арлоў, Рыгор Барадулін, Станіслаў Шушкевіч, прадстаўнікі палітычных партыяў і грамадзкіх аб'яднаньняў.

МАГІЛЕЎШЧЫНА

### У ГАРОДНІ ЗЬБІРАЮЦЬ ПОДПІСЫ ЗА ПЕРАЙМЕНАВАНЬНЕ ВУЛІЦЫ СПАРТОВАЙ

У Гародні вядзецца збор подпісаў за перайменаваньне вуліцы Спартовай у «Набярэжную Юзафа Ядкоўскага». Збор подпісаў вядзецца пад кіраўніцтвам Віктара Какарэкі, вядомага гарадзенскага нумізмата. Подпісы будуць накіраваныя ў Гарадзенскі гарадзкі Савет дэпутатаў. Юзаф Ядкоўскі - заснавальнік і першы дырэктар Гістарычнага музэю ў Гародні. Сёлета ў сьнежні будзе адзначацца яго 100-гадовы юбілей.

### СЬВЯТА НЯ БУДЗЕ, АЛЕ ВЫСТАВА ПРОЙДЗЕ

Гарадзенскі гарвыканкам забараніў гарадзкой радзе БНФ «Адраджэньне» правядзеньне сьвяточных мерапрыемстваў, прымеркаваных да Дня беларускай вайсковай славы - 8 верасьня. Плянавалася, што мерапрыемствы пройдуць на працягу ўсяго дня - два пікеты, тэматычная выстава мастака Зьміцера Іваноўскага, а ўвечары - канцэрт беларускіх бардаў, што меўся адбыцца каля мэмарыяльнага знаку «Пагоня на Грунвальд» ля Каложскай царквы. Забарона матываваная тым, што Гарадзенскі гарвыканкам дагэтуль не вырашыў пытаньне аб рэгістрацыі мясцовых структураў БНФ «Адраджэньне», хаця выстава мастака Зьміцера Іваноўскага ўсё ж такі адбудзецца каля гарадзенскай канцэртнай залі. Будуць ускладзеныя кветкі да памятных знакаў героям Грунвальду і паўстанцам 1863 году. У Каложскай царкве і Фарным касьцёле пройдуць набажэнствы, а ўвечары - канцэрт мясцовых бардаў каля Каложскай царквы.

### СЛОНІМСКІЯ ДЗЕЦІ МАЮЦЬ ВОЛЮ ДА РАЗЬВІЦЬЦЯ

Нядаўна ў Слоніме зь ініцыятывы грамадзкага аб'яднаньня «Воля да разьвіцьця» быў створаны клюб «Сьвятліца». У працы клюбу ўдзельнічаюць дзеці, якія занятыя ў розных гуртках - флярыстыкі, пляценьня з саломкі, макрамэ, мяккіх цацак. Днямі ў гарадзкой бібліятэцы № 4 адбылася выстава вырабаў дэкаратыўна-ужытковага мастацтва. У верасьні ў «Сьвятліцы» пачала працаваць яшчэ большая колькасьць гурткоў. Гэта дапаможа дзецям не згубіцца ў вольны час - раней іх пазашкольным разьвіцьцём займалася школа ды ўсялякія дамы піянэраў, а зараз за гэта мусяць узяцца прыватныя асобы ды грамадзкія арганізацыі.

### КАРАВАН БУКСАВАЎ У БАЛОТАХ БЕЛАРУСКАЙ РЭЧАІСНАСЬЦІ, ПАКУЛЬ КАНЧАТКОВА НЕ ЗАГРАЗ

Скандалам скончыўся гарадзенскі этап Міжнароднага культурна-асьветніцкага каравану «Наступны прыпынак - Новае стагодзьдзе». 8 верасьня ўдзельнікі акцыі, якую ладзіць грамадзкае аб'яднаньне «Next Stop - New Life» і швэдзкая арганізацыя «Peace Quest», мелі намер правесьці ў горадзе прэс-канфэрэнцыю і канцэрт у прыватным клюбе «Стоп-лінія». Аднак мясцовыя ўлады ў гэты ж дзень паведамілі арганізатарам, што забараняюць усе заплянаваныя акцыі. Напрыканцы жніўня Дзяржаўны камітэт па справах моладзі паведаміў арганізатарам каравану, што ня мае нічога супраць правядзеньня падобнага мерапрыемства. Адзінае, кіраўнікі «Next Stop - New Life» вымушаныя былі ўзгадніць пытаньне правядзеньня мерапрыемстваў зь мясцовымі выканаўчымі структурамі. Адначасова ў іншым лісьце Дзяржкам па справах моладзі разаслаў па мясцовых выканкамах ліст, у якім абвясьціў, што «ня лічыць магчымым рэкамэндаваць камітэтам (аддзелам) па справах моладзі мясцовых выканаўчых і распарадчых органаў рэспублікі падтрымаць правядзеньне каравану». У выніку шэраг праграмаў, сярод якіх - правядзеньне круглых сталоў, вулічных канцэртаў, тэатралізаваных прадстаўленьняў, выставаў, не былі выкананыя.

Узельнікі міжнароднага каравану ня змогуць правесьці свае мерапрыемствы і ў Магілеве. На прэс-канфэрэнцыі, якую ладзілі арганізатары акцыі, сталі вядомыя чарговыя падрабязнасьці сумнай гісторыі. Каардынатар праекту зь беларускага боку Алена Юркоўская распавяла: «Мэтаю каравану было паказаць - ёсьць магчымасьць для супрацоўніцтва паміж маладзёвымі грамадзкімі арганізацыямі і дзяржавай.» Арганізатары хацелі наладзіць падобнае супрацоўніцтва зь першасных абмену думкамі на спэцыяльных круглых сталах,што мусілі склікацца ў кожным з абласных цэнтраў. Магілеўскія ўлады загадзя разгледзелі пытаньне правядзеньня каравану і знайшлі прычыны, паводле якіх была вынесеная адмова. Як было паведамлена журналістам, у выніку дзеяньняў мясцовых уладаў пацярпеў імідж арганізацыі «Next Stop - New Life», і яе кіраўніцтва мае рашучы намер адстойваць сваю годнасьць і гонар у судзе.

### ЦЭНТАР МАЛАДЗЁВАЙ АДУКАЦЫІ ЗАПРАШАЕ

З 11 верасьня распачаўся набор у Гарадзенскі Цэнтар маладзёвай адукацыі (сумесны праект аб'яднаньня «Віт» і «Цэнтру «Трэці сэктар»). Удзел у ім возьме сёлета каля 100 юнакоў і дзяўчатаў ва ўзросьце ад 16 да 21 году. На працягу 7 месяцаў моладзь атрымае дадатковую адукацыю па трох накірунках: асновы журналістыкі, асновы права, грамадзкі мэнэджмэнт.

### ТРЭНІНГІ ДЛЯ ДЗІЦЯЧЫХ ІНІЦЫЯТЫВАЎ

9-10 верасьня ў Гародні прайшоў трэнінг у межах праекту «Глябальны рух у інтарэсах дзяцей». Гэтым разам прадстаўнікі дзіцячых ініцыятываў з Гарадзеншчыны знаёміліся з рознымі аспэктамі ўзаемадзеяньня зь дзяржаўнымі структурамі, бізнэсам і грамадзкімі аб'яднаньнямі. Трэнінг праводзілі гарадзенскія трэнэры Віталь Ніканові і Сьвятлана Руднік. У канцы верасьня ў межах праекту мяркуецца рэалізаваць праграму «Стварэньне і разьвіццё праекту».

### АШМЯНСКІЯ ТЫНЭЙДЖЭРЫ МАЮЦЬ УЛАСНАЕ ВЫДАНЬНЕ

У Ашмянах распачалося выданьне «інфармацыйнага бюлетэню мясцовай моладзі «Тынэйджэр». Заснавальнікам бюлетэню зьяўляецца аднайменная маладзёвая суполка. Матар'ялы выданьня друкуюцца на беларускай і расейскай мовах. Больш дэталёвую інфармацыю накошт выданьня можна атрымаць па адрасе: вул. Міцкевіча, 61-4, Ашмяны, 231100, e-mail: Civil_Forum@mailru.com

### МОЛАДЗЬ І ДЗЯРЖАВА - ПРЫНЦЫПЫ ЎЗАЕМАДЗЕЯНЬНЯ

У Горадні праходзіць другая сэсія школы - сэмінару прадстаўнікоў недзяржаўных грамадзкіх аб'яднаньняў «Умацаваньне дзейнасьці маладзёвых грамадзкіх аб'яднаньняў». Гэтая сэсія мае назву «Узаемадзеяньне грамадзкіх аб'яднаньняў зь дзяржавай. Прававыя аспэкты. інфармацыйнае забесьпячэньне. Фандрэйзынг». Арганізатарамі школы зьяўляецца шэраг недзяржаўных арганізацыяў, асноўныя зь якіх - гарадзенская арганізацыя «Віт» і менскі адукацыйны цэнтар «Пост». У сэмінарах прымае ўдзел некалькі дзясяткаў чалавек з усіх рэгіёнаў Беларусі.

### У ГАРОДНІ ЎЗЬНІК КЛЮБ ЛІТАРАТАРАЎ

Група гарадзенскіх літаратараў стварыла ўласны клюб, які будзе аб'ядноўваць паэтаў, празаікаў, крытыкаў, бардаў. Існаваць ён будзе як нефармальная суполка. Асноўнай мэтай клюбу зьўляецца актывізацыя літаратурнага жыцьця на Гарадзеншчыне, папулярызацыя таленавітых мясцовых аўтараў у Беларусі і за яе межамі, а таксама - ладжаньне творчых сустрэчаў і вечарынаў, актыўнае супрацоўніцтва з грамадзкімі арганізацыямі. Ужо напрыканцы кастрычніка клюб плянуе выдаць паэтычную анталёгію «Лябірынты прывіднага замку», у якую будуць ўключаны творы Анатоля Брусевіча, Васіля Дзівашэвіча, Эдварда Мазько, Віктара Шалкевіча ды іншых. Кніга будзе выдавацца ў Беластоку, дзе і адбудзецца не прэзэнтацыя на літаратурнай канфэрэнцыі «Бязьмежжа».

### «ШКОЛЕ ДЭМАКРАТЫЧНАГА ЛІДАРСТВА» - 2 ГАДЫ

24 верасьня ў Трэнінгавай залі грамадзкага аб'яднаньня «ВІТ» адбылося сьвяткаваньне другой гадавіны працы Гарадзенскай «Школы дэмакратычнага лідарства». Два гады таму 30 юнакоў і дзяўчат першымі ў Беларусі пачалі навучаньне ў межах доўгатэрміновага курсу пачаткаў грамадзкага мэнэджмэнту. Праграма школы ўключае каля 240 гадзінаў трэнінгавых заняткаў, пасьля якіх навучэнцы праходзяць стажыроўку ў маладзёвых аб'яднаньнях рэгіёну. За час працы школы адбылося два выпускі. А ўсяго ў «Школе дэмакратычнага лідарства» навучалася 71 асоба. Зь сярэдзіны кастрычніка пачнуцца заняткі ў 30 будучых грамадзкіх лідараў, гэта трэці набор школы.

### РЭГІЯНАЛЬНЫЯ НАЗІРАЛЬНІКІ НАСТРОЕНЫ РАШУЧА

У Лідзе пачаў дзейнічаць мясцовы клюб выбаршчыкаў. У новую арганізацыю выказалі жаданьне ўвайсьці прадстаўнікі розных рухаў дэмакратычнага кірунку. У межах праграмы прайшоў сэмінар па назіраньні за выбарамі, падчас якога ўдзельнікаў вучылі фіксаваць магчымыя парушэньні. Клюб дэкляруе, што яго мэтай ёсьць атрыманьне рэальнай інфармацыі пра тое, наколькі законна пройдуць восеньскія выбары. У офісе рэчыцкага прадстаўніцтва аб'яднаньня «Грамадзянскія ініцыятывы» адбыўся трэнінг-сэмінар па праблемах назіраньня за выбарчым працэсам, падчас якога адбылося ўдакладненьне праблемных момантаў. Удзел у мерапрыемстве ўзялі актывісты грамадзкіх аб'яднаньняў Рэчыцы, прадстаўнікі АГП і БНФ.

### МЭР ЛІДЫ НЕ СЬЦЯРПЕЎ НАХАБСТВА

26 верасьня ў Лідзе ў клюбе завода «Оптык» падчас арганізаванай уладамі сустрэчы выбаршчыкаў з кандыдатамі ў дэпутаты Палаты Прадстаўнікоў былі затрыманыя некалькі чалавек за распаўсюджваньне агітацыйных матар'ялаў, прысьвечаных байкоту выбараў. Некаторая анэкдатычнасьць сытуацыі ў тым, што адзін з нумароў апазыцыйнай газэты патрапіў у рукі да кіраўніка гарадзкога выканкаму, які прысутнічаў на сходзе. Мэр нахабства не сьцярпеў і загадаў затрымаць усіх апазыцыянэраў. Было сканфіскавана 60 асобнікаў газэты «Голас Ліды», а таксама 25 асобнікаў спэцвыпуску газэты «Рабочы». Групу маладых людзей даставілі ў пастарунак, дзе быў учынены допыт, на аднаго з затрыманых, кіраўніка інфармацыйнага цэнтру «Генэрацыя» Артура Ганько, быў складзены адміністрацыйны пратакол. На наступны дзень, пасьля судовага разьбіральніцтва, Ганько пакаралі штрафам у памеры з мінімальных заробкаў.

### ТАВАРЫСТВАМ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ ЗАЦІКАВІЛАСЯ МІЛІЦЫЯ

У Лідзе сядзібу гарадзкой рады ТБМ наведала міліцыя. Ордэру на вобыск супрацоўнікі МУС ня мелі, мабыць, палічыўшы гэта неабавязковай для сябе фармальнасьцю. Быў праведзены падрабязны агляд памяшканьня. Міліцыя шукала матар'ялы,зьвязаныя з акцыяй «Байкот-2000», і высьвятляла месца друку газэты «Голас Ліды», а таксама паходжаньне і прыналежнасьць абсталяваньня. Атрымаўшы тлумачэньні і копіі дакумантаў на абсталяваньне ды арэнду памяшканьня, міліцыя забрала адзінкавыя асобнікі спэцвыпуску «Рабочага», а таксама тры відэакасэты з той прычыны, што ніхто з прысутных ня ведаў, што на іх запісана.

### СЭМІНАР ДЛЯ СЯБРАЎ НЕЗАЛЕЖНАГА ПРАФСАЮЗУ

У Гародні прайшло «Агульнапрафсаюзнае навучаньне» для новых сябраў незалежных прафсаюзаў. Сэмінар быў наладжаны цэнтрам прафсаюзнага навучаньня ВА «Азот», у ролі трэнэраў выступілі дырэктар рэспубліканскага цэнтру навучаньня Беларускага незалежнага прафсаюзу Павал Майсіевіч і дырэктар аналягічнага мясцовага цэнтру Сяргей Антусевіч. Неабходнасьць падобных трэнінгаў арганізатары абгрунтоўваюць складанымі палітычнымі ўмовамі, у якіх сябрам незалежных прафарганізацыяў варта мець пачаткі неабходных прававых ведаў.

### У ЛІДЗЕ ЗЬЯВІЛАСЯ НОВАЯ МАЛАДЗЁВАЯ ГАЗЭТА

У Лідзе пры дапамозе інфармацыйнага цэнтру «Генэрацыя» выдадзены першы нумар маладзёвай газэты «Lida Exit». Па словах рэдактара Зьміцера Шаха, выданьне скіраванае на 15-20-гадовую моладзь і будзе цалкам беларускамоўнае. На працягу бягучага году газэта будзе выходзіць раз на месяц, з наступнага - два разы на месяц. У будучым плянуецца зьмясціць у сетцы інтэрнэт уласны сайт.

ГАРАДЗЕНШЧЫНА

### ЗАЯВА «БАРЦ»

Вярхоўнаму Суду Рэспублікі Беларусь
Грамадзкага аб'яднаньня «БАРЦ»
г. Гародня, вул. Будзёнага, 48А - 74

**ЗАЯВА**

08. 07. 2000 года Радай грамадзкага аб'яднаньня «БАРЦ» у Міністэрства Юстыцыі Рэспублікі Беларусь былі пададзеныя ўсе неабходныя дакументы з просьбаю аб рэгістрацыі грамадзкага аб'яднаньня «БАРЦ» і яго эмблемы згодна з законам Рэспублікі Беларусь «Аб грамадзкіх аб'яднаньнях» ды іншымі актамі заканадаўства.

08. 08. 2000 года намі быў атрыманы ліст з Міністэрства Юстыцыі Рэспублікі Беларусь з адмовай у рэгістрацыі грамадзкага аб'яднаньня «БАРЦ» і яго эмблемы. Прычынай адмовы ў рэгістрацыі называецца тое, што «...шэраг статутных задач і мэтадаў дзейнасьці ... аб'яднаньня прадугледжвае ўмяшаньне ў дзейнасьць іншых грамадзкіх аб'яднаньняў, распаўсюджваньне інфармацыі пра іх статутную дзейнасьць, у тым ліку і міжнародных, а таксама аказаньне ім дапамогі ў ажыцьцяўленьні статутнай дзейнасьці».

Дадзеныя тлумачэньні лічым недастатковымі і неабгрунтаванымі. Яны ня могуць быць падставай для адмовы ў рэгістрацыі грамадзкага аб'яднаньня «БАРЦ».

Просім абавязаць Міністэрства Юстыцыі Рэспублікі Беларусь зарэгістраваць грамадзкае аб'яднаньне «БАРЦ» і яго эмблему.

Прыкладаем копію Статуту грамадзкага аб'яднаньня «БАРЦ» і копію ліста Міністэрства Юстыцыі Рэспублікі Беларусь «Аб адмове ў рэгістрацыі».

06.09.2000

Старшыня Рады грамадзкага
аб'яднання «БАРЦ» А. У. Мілінкевіч

### СЭМІНАР ДЛЯ «НЯЧЭСНЫХ» ЖУРНАЛІСТАЎ

У Берасьці на базе цэнтру «Вежа» адбыўся трохдзённы сэмінар, арганізаваны IREX/ProMedia для журналістаў зь недзяржаўных газэтаў Берасьцейскага і Гарадзенскага рэгіёнаў. Удзельнікамі сустрэчы сталі не выдаўцы мясцовых бюлетэняў, а журналісты, якія маюць пэўны досьвед у сваёй галіне, супрацоўнікі «Берасьцейскага Кур'еру», «Біржы інфармацыі», іншых рэгіянальных выданьняў. Трэнінг праводзілі Джын МакКензі (дырэктар Прадстаўніцтва IREX) і Павал Быкоўскі (карэспандэнт газэты «Беларускі рынак»). Сабраныя разглядалі жанры журналістыкі, аналізавалі ўдалыя і няўдалыя артыкулы ў розных жанрах, вучыліся працаваць з крыніцамі інфармацыі (кантакты, палітыкі, афіцыйныя даклады), асвойвалі інтэрвію як тэхніку збору інфармацыі.

### ДЫК ШТО ЁСЬЦЬ ГЭТА - ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА?

10 верасьня ў Берасьцейскім цэнтры «Вежа» прайшоў сэмінар на тэму «Што такое правы чалавека», які ладзіўся для студэнтаў Берасьцейскага рэгіёну. Арганізоўвала сэмінар «Прававая клініка» цэнтру «Вежа». Падчас сэмінару былі закранутыя пытаньні філязофіі правоў чалавека, унутрыдзяржаўныя і міжнародныя мэханізмы іх абароны. Як працяг праграмы, 23 і 24 верасьня ў «Вежы» адбыўся чарговы сэмінар «Прававая клініка: навучаньне студэнтаў права практычным навыкам працы юрыста».

### МІЖНАРОДНЫ СЭМІНАР ПА ЭКАЛЯГІЧНАЙ АДУКАЦЫІ І ВЫХАВАНЬНЮ

Напрыканцы верасьня Берасьцейскі «Цэнтар экалягічных і сацыяльных дасьледаваньняў і інфармацыі «Неруш-цэнтар» правёў двухдзённы міжнародны навукова-мэтадычны сэмінар пад назвай «Сучасныя тэхналёгіі экалягічнай адукацыі і выхаваньня». Сэмінар праводзіўся пры ўдзеле шэрагу навучальных установаў гораду і раёну. Удзельнікаў было больш за 30 чалавек, сярод якіх — спэцыялісты зь Беларусі, Нямеччыны, Польшчы, Украіны. Акрамя пленарных паседжаньняў, была зарганізаваная праца сэкцыяў. Па выніках сэмінару плянуецца выданьне навукова-мэтадычнага зборніка матар'ялаў.

БЕРАСЬЦЕЙШЧЫНА

## ПЕРАДВЫБАРЧЫ ШАЛ...

У Берасьці быў затрыманы прадстаўнік праваабарончага цэнтру «Вясна» Васіль Андрасюк, які распаўсюджваў газэту «Рабочы». Ён быў дастаўлены ў Ленінскі райаддзел міліцыі, дзе на яго быў складзены адміністрацыйны пратакол. Некалькі дзясяткаў нумароў газэты былі сканфіскаваныя. Падобны інцыдэнт адбыўся і ў Гомлі, дзе супрацоўнікамі міліцыі ва ўласнай машыне быў затрыманы Анатоль Паплаўны, старшыня гарадзкой арганізацыі БНФ. Учыніўшыператрус, міліцыянты знайшлі ў багажніку спэцвыпуск газэты «Рабочы». Газэту сканфіскавалі, а кіраўніка мясцовага БНФ завезьлі ў РАУС, дзе пратрымалі 2 гадзіны, пасьля чаго склалі пратакол. Таксама ў Гомлі ў кватэру да лідара грамадзкага аб'яднаньня «Грамадзянскія ініцыятывы» Віктара Карніенкі падманным чынам уціснуліся шасьцёра супрацоўніакаў МУС. Спачатку яны патрабавалі ў гаспадара паказаць газэту «Рэспубліка», а потым - «Рабочы». Дакумантаў на вобыск міліцыянты не паказалі, таму гаспадар папрасіў іх пакінуць кватэру. Узрушаны падзеяй, Карніенка напісаў заяву пракурору.

## ЮРЫСТ, БУГАЛЬТАР І САКРАТАР «РАСКІНУЦЬ» НА ТРОХ

На базе берасьцейскага цэнтру «Вежа» прайшла сэрыя сэмінараў клюбу «На трох». Заняткі клюбу праводзілі прафэсійныя юрыст, бухгалтар і сакратар-рэфэрэнт, кожны зь якіх у сваёй галіне асьвятлялі спэцыфіку працы ў грамадзкім аб'яднаньні. На першым паседжаньні разглядаліся прававыя нюансы дзейнасьці айчынных НДА, нарматыўная база, таксама былі закранутыя пытаньні прававой абароны.

## АМАПАЎЦЫ ЗЛАВІЛІ «НЕБЯСЬПЕЧНАГА» ЗЛАЧЫНЦУ

У Віцебску каля школы № 40 узброеным атрадам АМАПу (каля 15 чалавек) быў затрыманы актывіст Маладога Фронту Яніс Чучман, які расклейваў улёткі «Моладзь на вырабы ня пойдзе». Ён быў дастаўлены ў Першамайскі РАУС г. Віцебску, куды адразу ж прыехалі прадстаўнікі праваабарончага цэнтру «Вясна» і БНФ. Паводле словаў дзяжурнага міліцыянта прапаршчыка А.Варапаева, прычынай затрыманьня і высьвятленьне асобы (Яніс ня меў пры сабе пашпарту) было падазрэньне ў зьдзяйсьненьні проціпраўных дзеяньняў . Пасьля складаньня пратаколу аб адміністрацыйным правапарушэньні (арт.167/1 - публічны заклік да байкатаваньня выбараў) затрыманы быў зьмешчаны ў «клетку». Хадатайніцтва аб прадстаўленьні юрыдычнай дапамогі было груба адхіленае міліцыянтамі.

## АРШАНСКІЯ ЎЛАДЫ НА КАМПРАМІС НЯ ЙДУЦЬ

Аршанскія грамадзкія аб'яднаньні падалі заяўку ў Аршанскі гарвыканкам на правядзеньне 15 верасьня пікету з патрабаваньнем да ўладаў вырашыць праблему зь юрыдычнымі адрасамі для недзяржаўных арганізацыяў і газэтаў, якія ня могуць прайсьці перарэгістрацыю. У горадзе склалася проста ўнікальная сытуацыя: мясцовая грамадзкая арганізацыя, якая жадае зарэгістравацца ва ўстаноўленым парадку, практычна ня мае магчымасьці знайсьці юрыдычнага адрасу. Прадстаўнікі трэцяга сэктару падазраюць, што існуе негалоснае распараджэньне, згодна зь якім прадпрыемствы, камунальныя службы наагул не прадстаўляюць памяшканьні пад юрыдычны адрэс. На сустрэчы прадстаўнікоў сямі арганізацыяў гораду зь кіраўніцтвам гораду старшыня гарвыканкаму Валянцін Майсеюк адкрыта адмовіўся чым-небудзь дапамагчы ў вырашэньні гэтай праблемы.

## СВАБОДА ВЫБАРУ

Прадстаўнікі пастаўскіх дэмакратычных аб'яднаньняў сьцьвярджаюць, што ўжо на першых этапах правядзеньня перадвыбарнай кампаніі было дапушчана шмат сур'ёзных правапарушэньняў. У Глыбокім група выбаршчыкаў сабрала патрэбную колькасьць подпісаў за вылучэньне ў склад выбарчай камісіі па адной з акругаў мясцовага мэдыка, што прытрымліваецца дэмакратычных поглядаў. Але яго, як і шэраг іншых непажаданых у выбарчых камісіях асобаў, не зарэгістравалі без сур'ёзнай матывацыі. Праўда, каб канчаткова ня выкрыць адкрытае самаўпраўніцтва, па Віцебскай вобласьці ў склад камісіяў былі ўключаныя 9 прадстаўнікоў ПКБ і 4 актывісты ЛДПБ. Напрыклад, у Паставах выбарчы працэс арганізуюць праверанымя раней старшыня калгасу «Дружба» Б. Шылько і два пэнсіянэры-камуністы.

## СВАБОДНЫ ПРАФСАЮЗ ДАПАМАГАЕ ІНВАЛІДАМ БАРАНІЦЬ СВАЕ ПРАВЫ

У Воршы Свабодны прафсаюз пры дапамозе інстытуту амэрыканскага прафсаюзу АФТ-КПП правёў сэмінар для інвалідаў па слыху й маўленьні, на якім удзельнікі вучыліся абараняць свае правы праз распрацоўку калектыўнай дамовы і яе заключэньне з нанімальнікам.

## ВІЦЕБСКІ «ДОН КІХОТ» ДВОЙЧЫ ПАЦЯРПЕЎ АД НЕВЯДОМЫХ

Арганізатар віцебскага філіялу Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады (БСДГ) Алесь Мудрычэнка перадаў у сродкі масавай інфармацыі тэкст заявы, дзе паведамляе аб двух нападах, якім ён падвяргаўся на мінулым тыдні. Паводле яго словаў, у абодвух выпадках адбывалася гэта ў самым цэнтры Віцебска, на плошчы Леніна, дзе Мудрычэнка ўжо правёў палову свайго месячнага санкцыянаванага пікета. Увесь гэты час ён, стоячы пад бел-чырвона-белым сьцягам, агітаваў мінакоў за байкот кастрычніцкіх выбараў у Палату прадстаўнікоў. 27 верасня ў пікетоўца разарвалі плакат, на якім пад партрэтам Лукашэнкі было напісана: «Я на выбары не пайду - усё роўна падмануць». У другім выпадку, 29 верасня, невядомы чалавек, сказаўшы «гэта табе за бацю», кінуўся на пікетоўца з кулакамі і разбіў яму твар. Адбылося гэта ў той момант, калі міліцыянт, прыстаўлены ахоўваць грамадзкі парадак у месцы правядзеньня пікета, адыйшоўся. Урэшце, пацярпелы не выключае і іншых тлумачэньняў таго, чаму міліцыянт не адрэагаваў на інцыдэнт. Нягледзячы на гэтыя інцыдэнты, аўтар заявы яшчэ два тыдні зьбіраецца праводзіць пікет, агітуючы за байкот выбараў і зьбіраючы заявы тых, хто жадае ўступіць у БСДГ.

## СЭМІНАР ПА ВЫДАВЕЦКАЙ ДЗЕЙНАСЬЦІ

Гарадоцкім рэсурсавым цэнтрам «Гасьцінец» быў праведзены сэмінар для зацікаўленых асобаў па арганізацыі недзяржаўнай выдавецкай дзейнасьці. Удзельнікі сэмінару мелі магчымасьць пазнаёміцца з асновамі фандрэзынгу, распрацаваць плян выдавецкай працы.

## «ТАРАСУ НА ПАРНАСЕ» - СКОРА 150 ГОД!

У Гарадку пачалася праца па падрыхтоўцы сьвяткаваньня 150-годзьдзя з дня напісаньня славутай паэмы «Тарас на Парнасе», аўтарам якой лічыцца Канстанцін Вераніцын. Плян падрыхтоўкі разьлічаны на пяць гадоў - да 17 красавіка 2005 года і зьмяшчае разнастайныя мерапрыемствы. Сярод іх- пераклад паэмы на эўрапейскія мовы, адкрыцьцё мэмарыяльных знакаў, правядзеньне чытаньняў, арганізацыя дзейнасьці грамадзкай Акадэміі тарасазнаўства і г. д. Усю працу плянуецца весьці сумесна зь вядучым тарасазнаўцам краіны - Генадзем Кісялёвым.

## ФРАНЦІШКУ СКАРЫНЕ - 510

10 верасьня ў Полацку сьвяткавалі 510-годзьдзе з Дня народзінаў славутага беларуса Францішка Скарыны. На працягу ўсяго дня ў горадзе праходзілі сьвяточныя мерапрыемствы. На цэнтральным пляцы адбываліся тэатральныя прадстаўленьні, у Сафійскай катэдры прайшоў канцэрт арганнай і вакальнай музыкі. На пляцы Скарыны падчас мерапрыемства пад назвай «Зазірнем у сярэднявечча» дэманстраваліся гістарычныя строі, сьпяваліся песьні, выступіў Наваполацкі рыцарскі клюб «Жалезны воўк». На сьвята прыехалі сябры зь Беларускага саюзу пісьменьнікаў, зь якімі ў бібліятэках гораду адбыліся тэматычныя сустрэчы.Уніяты адзначылі ўгодкі юбілею Скарыны набажэнствам. Трэба адзначыць, што сёлетняе сьвяткаваньне было нешматлюдным. Юбілеі першадрукара пачалі адзначацца з 1974 года, калі на Беларусі менавіта ў Полацку быў упершыню пастаўлены помнік Скарыне.



## ВЫБУХ КАМУНІКАЦЫЯЎ У ПАСТАВАХ

У Паставах ужо пачало выдавацца шэсьць незалежных выданьняў. Акрамя незалежнай газэты «Сумежжа», газэты НДА Заходняй Віцебшчыны «Крэсы» з дадаткам «Краязнаўца Паазер'я» зьявілася жаночая рэгіянальная газэта «Сяброўка» (ужо выдадзеныя два яе нумары), якая будзе мець дзіцячы дадатак «Зьнічка», праваабаронча - юрыдычны бюлетэнь «Прававое вакно» ды культурна - экалягічная газэта «Шыпшына». У хуткім часе пачне выдавацца бюлетэнь для моладзі.

## АРШАНСКІЯ АРГАНІЗАЦЫІ ДАМАГАЮЦЦА РЭГІСТРАЦЫІ

15 верасьня ў Воршы ў цэнтры гораду прайшоў пікет у падтрымку свабоды слова з патрабаваньнем рэгістрацыі грамадзкіх арганізацыяў і газэты «Куцейна». Ініцыяваная гэтая акцыя была Асамблеяй дэмакратычных няўрадавых арганізацыяў. У ёй бралі ўдзел прадстаўнікі грамадзкай арганізацыі «РША», аршанскай рэгіянальнай структуры Свабоднага прафсаюзу беларускага, Партыі БНФ, БСДП (НГ), «Маладых сацыял-дэмакратаў» і Цэнтру падтрымкі дэмакратычных пераўтварэньняў. Прычынай правядзеньня пікету сталася тое, што фактычна ніводная аршанская дэмакратычная арганізацыя ня можа атрымаць афіцыйнай рэгістрацыі. Найчасьцей праблемы ўзьнікаюць з-за адсутнасьці юрыдычнага адрасу,які мусіць быць у памяшканьні, што не ўваходзіць у жылы фонд. Разам з тым дзяржаўныя арганізацыі, гаспадары гэтых плошчаў, адмаўляюць прадстаўнікам трэцяга сэктару ў прадстаўленьні неабходных памяшканьняў.

## ПІКЕТ У ПАДТРЫМКУ МЯСЦОВАГА «ТРЭЦЯГА СЭКТАРУ»

15-га верасьня ў Віцебску адбыўся пікет, асноўнай мэтай якога было прыцягненьне ўвагі да праблемаў няўрадавых арганізацыяў Беларусі. Пікет быў наладжаны Грамадзкім аб'яднаньнем «Контур» супольна зь Віцебскім асьветніцкім таварыствам «Паходня». Сабраў ён каля 25-ці ўдзельнікаў. Да акцыі далучыліся прадстаўнікі іншых грамадзкіх аб'яднаньняў і групаў: БНФ «Адраджэньне», ВСМ «Верас», Задзіночаньне Беларускіх Студэнтаў, Малады Фронт. На пікеце распаўсюджваліся ўлёткі «Асамблея дэмакратычных няўрадавых арганізацыяў супраць выбарчага фарсу», газэта віцебскай моладзі «Верас», незалежнае інфармацыйна-аналітычнае выданьне «Віцебская Трыбуна».

## У ШУМІЛІНЕ ЗЬЯВІЛАСЯ ЎЛАСНАЕ НЕЗАЛЕЖНАЕ ВЫДАНЬНЕ

У Шуміліне, што ў Віцебскай вобласьці, на днях выйшаў першы нумар незалежнага выданьня «Сьвітанак». Новае выданьне будзе зьмяшчаць на сваіх старонках інфармацыю грамадзка-палітычнага кірунку, а таксама сацыяльныя і культурныя навіны. Выходзіць бюлетэнь будзе на чатырох старонках фармату А4.

## «ІДЫЁТ» РАСПАВЯДАЕ ПРА АЛЯКСАНДРА ПУШКІНА, БЕЛАРУСКАГА МАСТАКА

У Віцебску адбылася прэзэнтацыя 37-га нумару мастацка-публіцыстычнага часопісу «Ідыёт». Новы нумар прысьвечаны мастаку Алесю Пушкіну. Тут ёсьць літаратурныя опусы на любы густ і розных жанраў - ад падарожных нататак да ўспамінаў і лірыкі. Як заўсёды, некалькі старонак прысьвечана хроніцы культурнаа жыцьця Віцебску. Часопіс робіцца самвыдатам з 1983 года, і ўсё дзякуючы намаганьням рэдактара Вячаслава Новікава. А ў 1995 годзе часопіс атрымаў у Маскве Малую Букераўскую прэмію.

## НОВЫ НУМАР «КАЛОСЬСЯ»

Выйшаў новы нумар літаратурна-мастацкага альманаху полацкага Таварыства вольных літаратараў «Калосьсе». Яго адкрывае апавяданьне «Шпацыр аднаго ценю» францускага паэта-авангардыста Гіёма Апалінэра, які паходзіў зь вядомага беларускага роду Кастравіцкіх. На беларускую мову твор пераклаў Лявон Баршчэўскі. У нумары надрукаваныя творы аўтараў з усіх рэгіёнаў Беларусі. Проза прадстаўленая апавяданьнямі Вінцэся Мудрова, Ігара Сідарука, Міхася Андрасюка, Алеся Аркуша. Друкуецца ў нумары і другая кніга рамана Вітаўта Чаропкі «Поўны керкешоз». Паэзію прадстаўляюць Надзея Салодкая, Юрась Пацюпа, Тацьцяна Хмара ды інш. Таксама ў нумары зьмешчаныя рэцэнзіі на 13 кніг беларускіх аўтараў, што выйшлі ў недзяржаўных выдавецтвах. Альманах аздоблены графікай Хведара Хамякова, малодшага брата вядомага беларускага сьпевака Алена. З новым нумарам альманаха «Калосьсе» можна пазнаёміцца і ў інтэрнэце (http://kalossie.freeservers.com).

## СЬВЯТА ГАБРЭЙСКАЙ КНІГІ

22 кастрычніка ў Полацку будуць сьвяткаваць Дзень габрэйскай кнігі. Арганізатарам сьвята зьяўляецца Полацкі габрэйскі культурны цэнтар. У межах сьвяткаваньня адбудуцца дзьве выставы: малюнкаў і кнігаў габрэйскіх аўтараў. Мерапрыемства будзе праходзіць пад знакам вядомага габрэя Бэна Іяхуды, ураджэнца Беларусі, які адрадзіў старажытную габрэйскую мову - іўрыт. Нарадзіўся Бэм Іяхуда ў вёсцы Лужкі, што на Шаркаўшчыне. У хуткім часе на яго радзіме будзе адчынены музэй, арганізоўвае яго жыхар вёскі Эдмунд Гірын. На сьвята зьбярэцца шмат госьцяў зь Віцебску, іншых гарадоў Беларусі, аўтары кнігаў на габрэйскую тэматыку. Наваполацкі пісьменьнік Аляксандар Чарніцкі выступіць з дакладам, у якім распавядалася пра жыцьцё і творчасьць Бэма Іяхуды. Нягледзячы на вялікі ўклад ураджэнца Беларусі ў габрэйскую культуру, яго імя не ўзгадваецца ані ў воднай беларускай энцыкляпэдыі.

## ІНФАРМАЦЫЯ ПРА ДЗЕЙНАСЬЦЬ ЦМІ «КОНТУР»

15-га верасьня ў Віцебску Грамадзкім Аб'яднаньнем «Цэнтар Маладзёвых ініцыятываў «Контур» супольна зь Віцебскім асьветніцкім таварыствам «Паходня» быў зладжаны пікет прысьвечаны праблемам грамадзкага сэктару. Мэтай акцыі было прыцягненьне ўвагі да праблемаў, зь якімі сутыкаюцца няўрадавыя арганізацыі ў Беларусі. У адрозьненьні ад цывілізаваных краінаў, у Беларусі ўлады ня толькі не спрыяюць, але і ўсяляк перашкаджаюць дзейнасьці няўрадавых арганізацыяў. Сыстэматычна зьмяняюцца прававыя ўмовы існаваньня арганізацыяў трэцяга сэктару, ускладняюцца працэдуры рэгістрацыі і атрыманьня памяшканьня для іх дзейнасьці. Больш за тое, у 1999 годзе была праведзеная перарэгістрацыя грамадзкіх арганізацыяў, і толькі 57% ад колькасьці арганізацыяў здолелі прайсьці гэтую працэдуру пасьпяхова.

Пікет сабраў каля 25-ці ўдзельнікаў, якія трымалі наступныя лёзунгі: «свабода слова - асноўная прыкмета цывілізаванай краіны», «камісія Замяталіна зьнішчыла 211 грамадзкіх аб'яднаньняў!!!», «рэгістрацыя і перарэгістрацыя грамадзкага сэктару - парушэньне правоў чалавека», «дзяржаве непатрэбны культурніцкія,асьветніцкія і маладзёвыя аб'яднаньні». Да акцыі далучыліся прадстаўнікі іншых грамадзкіх аб'яднаньняў і групаў: БНФ «Адраджэньне», ВСМ «Верас», Задзіночаньне Беларускіх Студэнтаў, Малады Фронт. На пікеце распаўсюджваліся ўлёткі «Асамблея дэмакратычных няўрадавых арганізацыяў супраць выбарчага фарсу», газэта віцебскай моладзі «Верас», незалежнае інфармацыйна-аналітычнае выданьне «Віцебская Трыбуна».

Падобныя імпрэзы, ініцыяваныя Асамблеяй дэмакратычных няўрадавых арганізацыяў, прайшлі і ў іншых гарадох Беларусі.

## СТУДЭНТАМ - КІРАВАЦЬ САМІМ

22-23 верасьня ў Віцебску Задзіночаньне Беларускіх Студэнтаў супольна зь Нідэрляндзкім Зьвязам Студэнтаў правяло сэмінар прысьвечаны праблемам студэнцкага самакіраваньня. Да ўдзелу ў сэмінары былі запрошаныя прадстаўнікі студэнцкіх арганізацыяў г.Віцебска. Трэнэрамі выступілі сябры Нідэрляндзкага Зьвязу Студэнтаў і менскага ЗБСу. Удзельнікі мелі магчымасьць зазнаёміцца з досьведам эўрапейскіх краінаў, паўдзельнічаць у дыскусіі адносна пэрспэктываў студэнцкага самакіраваньня ў Беларусі, вызначыць першапачатковыя дзеяньні для яго разьвіцьця. Па выніках семінару зь ліку студэнтаў розных віцебскіх ВНУ была сфарміравана ініцыятыўная група, якая будзе спрыяць усталяваньню студэнцкага самакіраваньня ў Віцебску і займацца прапагандай яго ідэяў сярод віцебскага студэнцтва. Узначаліла ініцыятыўную групу студэнтка Віцебскага дзяржаўнага ўніверсітэту Тацьцяна Карпечанка, сябра Віцебскае суполкі ЗБС.

ВІЦЕБШЧЫНА



У падборцы скарыстаная інфармацыя:
Беларуская Асацыяцыя Рэсурсавых Цэнтраў. BARC_List NEWS (barc@user.unibel.by).
Цэнтар «Вежа» (Берасьце) - e-mail: vezhain@brest.unibel.by.
Прэсавая група БНФ (email: press@cscsc.lingvo.minsk.by).
Кантакт-цэнтар (Крычаў) - e-mail: Kontakt-centr@mogilev.unibel.by.
ЦМІ «Контур» (Віцебск) - e-mail: kontur@vitebsk.net.

## ЧАРГОВАЙ МАСАВАЙ АКЦЫЯЙ АПАЗЫЦЫЯ ПРАТЭСУТУЕ СУПРАЦЬ НЕДЭМАКРАТЫЧНЫХ ВЫБАРАЎ

***Напярэдадні парляманцкіх выбараў 14 кастрычніка ў Менску прайшла акцыя пратэсту беларускай апазыцыі «Супраць дыктатуры і выбарчага фарсу!».***

Шэсьце, у якім удзельнічала некалькі тысячаў чалавек, прайшло ад Акадэміі Навук да Опэрнага тэатру. За некалькі гадзінаў да пачатку мерапрыемства Менгарвыканкам забараніў рух па згаданым маршруце. Аднак гэта не перашкодзіла ўдзельнікам трымацца менавіта выбранага маршруту. Каля Опэрнага тэатру адбыўся кароткі мітынг, на якім выступілі старшыня БНФ Вінцук Вячорка, кіраўнік АГП Анатоль Лябедзька, лідар Маладога Фронту Павал Севярынец.

## ПА АФІЦЫЙНЫХ ЗЬВЕСТКАХ, ВЫБАРЫ АДБЫЛІСЯ. ЯКІЯ ЎДАЛІСЯ – НЕДЭМАКРАТЫЧНЫЯ

15 кастрычніка ў Беларусі адбыліся парляманцкія выбары. Па дадзеных Цэнтарвыбаркаму, у 96 з 110 выбарчых акругаў колькасьць прагаласаваўшых была большай за 50 адсоткаў. Выбары не адбыліся ў чатырох акругах Берасьцейскай вобласьці, у трох акругах Менску, у Віцебску, Барысаве, Маладэчне. Яшчэ невядомыя канчатковыя афіцыйныя лічбы, але ўжо зараз можна ўпэўнена канстатаваць адно - падчас выбараў была зафіксаваная велізарная колькасьць парушэньняў выбарчага заканадаўства. Асабліва гэта тычыцца рэгіёнаў.

У Менску на выбарчым участку студэнцкага гарадка БДУ каля паловы выбаршчыкаў, якія былі ўнесеныя ў сьпісы для галасаваньня, прагаласавалі ўжо да суботы 14 кастрычніка. Да студэнтаў, якія не прагаласавалі датэрмінова, прадстаўнікі кіраўніцтва інтэрнатаў заходзілі ўжо не з абстрактнымі заклікамі прыняць удзел у выбарах, а з канкрэтным пытаньнем: «Чаму не прагаласавалі?». Адказ, маўляў, выбары ж заўтра, успрымаўся як крамола. На наступны дзень 15 кастрычніка адміністрацыя прысьпешыла рэшту студэнтаў.

«Не выбарчаму фарсу!» – гучала на ўсіх апошніх шэсцях і мітынгах

## ШТО РАБІЛІ ЛІДАРЫ АПАЗЫЦЫІ 15 КАСТРЫЧНІКА?

***15 кастрычніка кампанія «Байкот - 2000» была ў сваім піку. Лідары апазыцыйных партыяў і арганізацыяў рабілі ў гэты дзень тое, да чаго заклікалі ўсіх беларусаў: альбо адпачывалі, альбо працавалі. Усе былі далёка ад тых месцаў, дзе рэжым імітаваў «выбары ў парлямэнт».***

**ВІНЦУК ВЯЧОРКА**, старшыня БНФ, падчас выбараў у палатку быў у офісе Партыі БНФ: тэлефанаваў, цікавіўся тым, як праходзіць галасаваньне, а таксама сачыў за актуальнымі падзеямі праз інтэрнэт.

**АНАТОЛЬ ЛЯБЕДЗЬКА**, старшыня Аб'яднанай Грамадзянскай Партыі, распавёў, што 15 кастрычніка для яго быў днём адпачынку. За апошнія 2 месяцы гэта першы дзень, калі сп. Лябедзька дазволіў сабе ляжаць на канапе і чытаць газэты, якія сабраліся за гэты час.

**ЗЬМІЦЕР БАНДАРЭНКА**, каардынатар Хартыі'97 ў дзень выбараў у палатку паехаў разам з сябрамі ў лес, дзе меў магчымасьць на сьвежым паветры добра адпачыць і атрымаць асалоду ад беларускай прыроды.

**АЛЯКСЕЙ КАРОЛЬ**, намесьнік старшыні БСДП (НГ), прытрымліваўся актыўнага байкоту выбараў. 15 кастрычніка першую палову дня ён абходзіў выбарчыя ўчасткі і назіраў, як праходзіць галасаваньне. Увечары сп. Кароль таксама займаўся палітычнай працай.

**ПАВАЛ СЕВЯРЫНЕЦ**, лідар Маладога Фронту, 15 кастрычніка правёў ува Ўправе БНФ, дзе працаваў з дакумэнтамі, а таксама цікавіўся інфармацыяй з галасаваньня, якая найхутчэй трапляла ва Ўправу.

## «ВЫБАРЫ» НА БЕЛАРУСІ

Шэраг парушэньняў пры выбарах зафіксаваны ў Горках Магілёўскай вобласьці. Кіраўніцтва школаў загадала настаўнікам абыходзіць з хатнімі візытамі бацькоў навучэнцаў і агітаваць іх за датэрміновае галасаваньне. Цягам тыдня чальцы выбарчых камісіяў хадзілі з урнамі па кватэрах і прасілі выбаршчыкаў прагаласаваць датэрмінова. Студэнтам Горацкай акадэміі паабяцалі за датэрміновае галасаваньне даць тыднёвы адпачынак, а ў адваротным выпадку ім пагражалі адлічэньнем з навучальнай установы.

***У Бабруйскай*** выбарчай акрузе № 65 у вёсцы Катка для заахвочваньня да галасаваньня былі выкарыстаныя падступныя прыманкі. Адзін з кандыдатаў, дырэктар Бабруйскага хлебакамбінату Уладзімір Пасюра, завёз у вёску на продаж танны камбікорм — коштам 4950 рублёў за мех, калі ў крамах гэты прадукт каштуе 6670 рублёў. Сам кандыдат пры гэтым знаходзіўся побач у якасьці наглядНай агітацыі.

***На Глускім*** выбарчым участку № 28 за тры дні колькасьць выбаршчыкаў скарацілася на 310 чалавек. Якая хвароба альбо эпідэмія выкасіла іх рады - невядома. Кожны дзень датэрміновага галасаваньня сьпіс выбаршчыкаў няўхільна скарачаўся. Калі 11 кастрычніка ў сьпісе было 1948 чалавек, дык 13 кастрычніка іх засталося толькі 1638. Куды дзеліся астатнія - зараз высьвятляе назіральнік Аляксандар Кульба.

***У Пінску*** ўдзел у выбарах прыняло крыху больш за 51%. Пры гэтым большасьць выбарнікаў галасавала супраць усіх кандыдатаў. Датэрміновае галасаваньне працягвалася амаль увесь тыдзень, на некаторых участках датэрмінова прагаласавала да 50% ад усіх, хто прымаў удзел у галасаваньні. На студэнтаў мясцовых навучальных установаў - тэхнікумаў і каледжаў - чыніўся ціск з боку лектараў і выкладчыкаў, студэнтам пагражалі адлічэньнем.




Шматлікія парушэньні былі зарэгістраваныя наглядальнікамі з грамадзкіх арганізацыяў на выбарах у Рэчыцы. Яшчэ пры правядзеньні передвыбарчай агітацыі ў горадзе распаўсюджваліся ўлёткі без выходных дадзеных, якія рэклямавалі аднаго з кандыдатаў - цяперашняга выканкамаўскага старшыню камісіі па аграрных пытаньнях. Акрамя таго, выбаршчыкі атрымлівалі па некалькі бюлетэняў у адны рукі. А выбарчыя камісіі за 15 дзён да галасаваньня яшчэ не былі падрыхтаваныя да выбараў - тут нават ня мелі складзеных выбарчых сьпісаў. У сам дзень галасаваньня назіральнікаў спрабавалі абмежаваць у іх дзейнасьці, вызначаючы ім месцы, дзе яны не маглі выконваць свае абавязкі.




***У Ружанах*** (Берасьцейская вобласьць) улады не дапусьцілі назіраць за выбарамі прадстаўнікоў грамадзкай арганізацыі «Яравіт», спасылаўшыся на тое, што яны ня маюць пасьведчаньня ад газэты «Голас Пружанаў», хаця заявы яны падалі ва ўстаноўленым парадку за дзень да выбараў. Калі назіральнікі ўсё-ж такі атрымалі пасьведчаньне ад газэты, іх пусьцілі на ўчастак, але праз некаторы час прымусілі яго пакінуць - у гэты момант якраз прыбыла нейкая таямнічая машына. Калі машына зьехала, назіральнікам зноў дазволілі вярнуцца на ўчастак.

***Па Белавескай*** акрузе №7 (Пружаны Берасьцейскай вобласьці) назіральніку ад грамадзкай арганізацыі «Яравіт» Яззпу Машкале заміналі ў выкананьні яговых абавязкаў. Калі пачаўся падлік галасоў, чальцы камісіі зачынілі дзьверы перад носам у назіральніка, які на невялікі час адлучыўшыся. Назіральніку прыйшлося сачыць за падлікам бюлетэняў праз вокны будынку, у якім засядала камісія.

***У вёсцы Скорцы*** Пружанскага раёну (Берасьцейская вобласьць) быў наладжаны імправізаваны выязны ўчастак. Сама камісія знаходзіцца ў суседняй вёсцы, але ж брыгадзір калгасу вырашыў палегчыць сваім аднавяскоўцам працэдуру галасаваньня. Пры гэтым вясковая камісія складалася з адной асобы, які адначасова і тлумачыў выбаршчыкам, за каго трэба аддаваць свой голас.

***У Маладэчне*** сярод шэрагу парушэньняў было зафіксавана наступнае: запрашэньне на выбары атрымалі нябожчыкі. Так, чалавек, памерлы два гады таму, быў унесены ў сьпісы выбаршчыкаў па сваёй акрузе.

## СТУДЭНТЫ ПІКЕТАВАЛІ БЕЛАРУСКУЮ АМБАСАДУ Ў ВАРШАВЕ

15 кастрычніка ў Варшаве маладзёвая арганізацыя Задзіночаньне Беларускіх Студэнтаў сумесна зь «Беларускай асацыяцыяй студэнтаў Польшчы» правяла пікетаваньне беларускай амбасады ў падтрымку кампаніі «Байкот». На акцыю сабралося больш за дваццаць асобаў. Пасьля дэманстрацыі пратэсту пікетоўшчыкі склалі зварот, у якім выказалі сваё стаўленьне да парляманцкіх выбараў.

## ПЭРФОМАНС НА ВУЛІЦАХ ПРАГІ

У нядзелю 15 кастрычніка беларуская грамадзкасьць у Празе зарганізавала «парадыйныя выбары». Акцыя адбывалася на Стараместкім плацы, які знаходзіцца ў цэнтры чэскай сталіцы. Арганізатары мерапрыемства заклікалі прысутных выбраць паміж «Лукашэнка - гут» і «Лукашэнка - капут». Своеасаблівы пэрфоманс прыцягнуў увагу вялікай колькасьці як турыстаў, так і жыхароў Прагі. Падчас імпрэзы прысутнічаў прадстаўнік місіі «Чалавек у бядзе».



# ТАВАРЫСТВА ВОЛЬНЫХ ЛІТАРАТАРАЎ (ТВЛ)




***Было заснавана на ўстаноўчым сходзе, які адбыўся 1993 году ў Наваполацку. У ТВЛ ўваходзяць літаратары й тэхнічныя супрацоўнікі, якія задзейнічаны ў выдавецкіх праектах Таварыства.***

Сябры ТВЛ жывуць пераважна ў гарадох Віцебскай, Горадзенскай і Берасьцейскай вабласьцей. Агульная колькасьць сяброў - каля 15 чалавек. Штаб-кватэра ў Полацку. Галоўны каардынатар Таварыства - Алесь Аркуш (Полацак). Сябры Рады ТВЛ: Вінцэсь Мудроў (Наваполацак), Юры Гумянюк (Горадня), Ігар Сідарук (Кобрынь), Лявон Вашко (Масты).

***Асноўнымі кірункамі дзейнасьці ТВЛ зьяўлюцца:***

- падтрымка нацыянальнай культуры ў рэгіёнах Беларусі;
- выданьне літаратурных пэрыядычных друкаў і мастацкіх кніг;
- ладжаньне літаратурных сустрэчаў, вечарынаў, канфэрэнцыяў;
- папулярызацыя беларускай літаратуры ў Беларусі і ў замежжы.

ТВЛ заснавала выдавецкую суполку «Полацкае ляда», якая ўжо выдала каля 30 друкаў ( літаратурных альманахаў, зборнікаў паэзіі і прозы). «Полацкая ляда» друкуе пераважна кнігі рэгіянальных літаратараў. Штогод (з 1993-га году) Таварыства вызначае ляўрэата літаратурнай прэміі за лепшую беларускую мастацкую кнігу «Гліняны Вялес», цырымонія ўганараваньня прэміяй адбываецца ў полацкім Музэі беларускага кнігадрукаваньня.

ТВЛ выдае літаратурна-мастацкі альманах **«Калосьсе»** (рэдактар Алесь Аркуш);
альманах мае сайт у Інтэрнэце
(адрэса: http:kalossie.freeservers.com),
а таксама электронны часопіс **«Духахрам»**
(рэдактар Лявон Вашко),
адрэса: http:liavon.virtualave.net.
Зь мінулага году пачалі выходзіць кнігі з сэрыі **«Бібліятэка часопіса «Калосьсе»**.

Кантактная інфармацыя:
211413, Віцебская вобл.,
Полацак-13, а/с 14
тэл. (0214) 43-67-52
E-mail: freelit@polotsk.unibel.by

# FREEDOM HOUSE (ДОМ ВОЛІ)

**Дом волі - гэта заклік да дэмакратыі па ўсім сьвеце. Заснаваны ў 1941 годзе Элеанорай Рузвэльт, Уэндэлам Уілкі ды іншымі амэрыканскімі грамадзянамі, якіх хвалявала павелічэньне небясьпекі, што пагражала міру й дэмакратыі. Дом волі заўсёды актыўна выступаў за дэмакратычныя каштоўнасьці і быў пастаянным апанэнтам дыктатуры як з боку скрайне правых, так і з боку скрайне левых.**

Домам волі кіруе рада апэкуноў, якая з большага складаецца з рэспубліканцаў і незалежных прадстаўнікоў, дзелавых ды прафсаюзных лідараў, былых старшыняў урада, а таксама навукоўцаў, пісьменнікаў і журналістаў.

Напрацягу гадоў Дом волі быў цэнтрам барацьбы за свабоду. Ён трымаў лідарства ў пытаньнях правоў дэмакратычных актывістаў, веруючых, сябраў прафсаюзаў, журналістаў і тых, хто падтрымлівае рынкавую эканоміку. У 1997 Дом волі скансалідаваўся з Нацыянальным Форумам Фундацый і займаецца шэрагам праграм па дэмакратызацыі.

Сёньня Дом волі - гэта вядучы абаронца маладых дэмакратый сьвету, што змагаюцца са спадчынай статызму, дыктатарства і палітычных рэпрэсій. Ён праводзіць мноства дасьледваньняў у Злучаных Штатах і па ўсім сьвеце, займаецца адвакатурай, адукацыяй, навучальнымі ініцыятывамі па разьвіцьці правоў чалавека, дэмакратыі, свабоднай рынкавай эканомікі,усталяваньнем вяршынства закона, незалежнымі СМІ, назірае за ўдзелам ЗША ў міжнародных справах.

### *Праект па рэгіянальнай сетцы НДА*

Праект Дома Волі па рэгіянальнай сетцы НДА заахвочвае супрацоўніцтва і стасункі паміж Цэнтральна- і Усходнеэўрапейскімі НДА. Праект пачаўся як частка Праграмы Дэмакратычнай Сеткі (DemNet), ініцыятывы разгорнутай у 1995г. Агенцтвам Міжнароднага Разьвіцьця Злучаных Штатаў (USAID), каб замацаваць традыцыю ўдзелу людзей у дэмакратычным працэсе ў рэгіёне. У 1998 г. Праект па Рэгіянальнай Сетцы быў працягнуты USAID яшчэ на тры гады са звужаным сьпісам прыярытэтаў і мэтаў. Праект прапаноўвае шэраг грантадаўчых, навучальных магчымасьцяў, прадугледжаны абмен інфармацыяй. НДА з Альбаніі, Босніі і Герцагавіны, Баўгарыі, Харватыі, Вугоршчыны, Латвіі, Літвы, Македоніі, Польшчы, Румыніі, Славакіі ды Югаславіі (Сэрбіі-Мантэгера) маюць права на падтрымку. Таксама вітаюцца праекты, дзе партнэрамі выступаюць грамадзкія арганізацыі зь Беларусі й Украіны.

Праект падтрымлівае сумесную дзейнасьць між краінамі НДА Цэнтральнай і Ўсходняй Эўропы, якая спрыяе дэмакратызацыі і эканамічнаму разьвіцьцю. Каб дапамагчы бясьпечнаму і хуткаму пераходу рэгіёна да адкрытых палітычных і эканамічных сістэмаў, Дом Волі спрыяе працы абраных групаў, істотных НДА, такіх, як незалежныя інстытуты палітыкі і мазгавыя цэнтры, у іх супрацоўніцтве з партнэрамі ў іншых краінах з мэтаю інфармаваньня грамадзкай думкі і ўплыву на значныя пытаньні грамадзкай палітыкі. Гэта ўключае асноўныя дасягненьні і праблемы ў галіне зьнешняй палітыкі і бясьпекі, грамадзянскай супольнасьці і ўпраўленьня, эканамічнага пераходу і разьвіцьця, і правоў меншасьцяў. Калі ласка кантактуйце з Домам Волі ў Будапэшце пра дэталі сучасных прыярытэтаў і заяў.

### *Вядучыя мэты праекту:*

1. Падтрымка дасьледаваньняў НДА, якія пакрываюць некалькі краінаў; адукацыйныя праграмы, што датычацца сумесных ці агульных пытаньняў грамадзкай палітыкі.
2. Павялічваць сумеснае выкарыстаньне інфармацыі, якая датычацца пытаньняў рэгіянальнай грамадзкай палітыкі, паміж краінамі і супрацоўніцтва НДА Цэнтральнай і Ўсходняй Эўропы.

### *Дом Волі падтрымлівае НДА Цэнтральнай і Ўсходняй Эўропы праз наступныя праграмы:*

*Праграма грантаў па рэгіянальных праектах НДА*

Дом Волі выдае гранты для падтрымкі праектаў паміж краінамі. Праекты мусяць утрымліваць моцны кампанэнт грамадзкай палітыкі, рабіць значны акцэнт на рэгіянальнае вымярэньне, прадугледжваць удзел НДА як мінімум зь дзвюх краінаў Цэнтральнай і Ўсходняй Эўропы, і адпавядаць прыярытэтам праграмаў Дома Волі.

*Праграма рэгіянальнага абмену*

Дом Волі спансуе і арганізуе кароткатэрміновыя абмены паміж НДА ў Цэнтральнай і Ўсходняй Эўропе. Удзельнікі разьвіваюць і перадаюць адзін адному досьвед кіраваньня НДА у такіх галінах, як фандрэйзынг, стасункі са СМІ, ды наладжваюць кантакты і супрацоўніцтва з мэтай разьвіцьця сумесных праектаў.

*Праграма наведваньня партнэраў у ЗША*

Праз гэтую доўгаіснуючую і грунтоўную праграму Дом Волі спансуе шасцітыднёвыя практычныя стажыроўкі для кіраўнікоў і старэйшых супрацоўнікаў штата з НДА для іх працы ў офісах арганізацыяў-аднадумцаў Злучаных Штатаў.

Інфармацыйныя рэсурсы Дома Волі - гэта высакаякасны рэгіянальны бюлетэнь NGONews, які распаўсюджваецца ў больш як за 6 тысяч НДА, паміж дзяржаўнымі чыноўнікамі і грамадзкімі дзеячамі. Яго тэмы абымаюць найбольш істотныя пытаньні, такія як супольнасныя фундацыі, мазгавыя цэнтры, сеткі НДА і абарона ў Цэнтральнай і Ўсходняй Эўропе. Даступны рэсурс для НДА ва Ўсходняй і Цэнтральнай Эўропе, які ўвесь час пашыраецца, можна атрымаць у http://www.ngonet.org.

Фінансаваньне праекта Дома Волі па рэгіянальнай сетцы працы забяспечанае USAID.

**Беларускія НДА запрашаюцца да падачы заяваў на ўсе пералічаныя праграмы!**

### *Гранты па рэгіянальным праекце НДА*

Агульныя рэкамендацыі

*1. Адпаведнасьць*

Каб адпавядаць грантам рэгіянальных праектаў, прэтэндэнт мусіць быць:

• легальна зарэгістраванай НДА ў Албаніі, Босніі, Гэрцагавіне, Балгарыі, Харватыі, Венгрыі, Латвіі, Літве, Македоніі, Польшчы, Румыніі, Славакіі ці Югаславіі (Сэрбіі Мантынегра), і пры асаблівых абставінах - у Чэхіі і Эстоніі (праекты-пілоты, якія зьвязваюць мазгавыя цэнтры ЦіУЕ і групы па грамадзкай дзейнасьці з партнэрскімі НДА ў Беларусі і Украіне таксама будуць разглядацца; кантактуйце з Домам Волі ў Будапешце па дэталях);

• далучаным да істотных дасьледваньняў грамадзкай палітыкі, адукацыі, працы ў сетцы навучаньня ці абароны, якія спрыяюць палітычным і эканамічным рэформам/разьвіцьцю.

*Каб адпавядаць гэтаму праекту, праект і прапанова павінны:*

• дэманстраваць значны акцэнт на справы паміж краінамі ЦіУЕ;

• уключаць партнэраў ці ўдзельнікаў зь ня меньш як 2-х, пажадана 3-х і больш краін, адзначаных вышэй;

• мець моцны кампанэнт грамадзкай палітыкі;

• адпавядаць мэтам і прыярытэтам Дома Волі;

• адпавядаць неабходнаму фармату прапановы.

Дом Волі не падтрымлівае ўнівэрсытэцкія дасьледваньні, навучаньне асьпірантаў ці спартовую, культурніцкую і рэлігійную дзейнасьць.

Да падачы фармальнай заявы рэкамэндуецца высьвятліць па тэлефоне ці празь ліст, ці адпавядаюць мэты прэтэндэнта асноўным інтарэсам Дома Волі ў дадзены момант.

*2. Агульныя рэкамендацыі і крытэрыі*

Патрабаваньні да прэтэндэнтаў на гранты:

• як правіла, бюджэты праектаў ня мусяць перавышаць 25 тысяч даляраў (USD 25 000) на арганізацыю ў год, у залежнасьці ад прапанаваных відаў дзейнасьці;

• праектам, якія атрымліваюць фінансавую падтрымку зь іншых крыніцаў (фондаў, бізнэса, дзяржаўных агенцтваў і г.д.), будзе аддана перавага. Рэкамэндуецца, каб усе праекты мелі ня менш за 20% ад сумы бюджэту зь іншых крыніцаў.

• перавага будзе аддана праектам, пададзеным ад мазгавых цэнтраў і арганізацыям грамадзкіх справаў, якія ўцягнутыя ў грамадзкую адукацыю, у пытаньні абароны;

• праекты, якія ўключаюць і спрыяюць супрацоўніцтву паміж НДА, сфэрай бізнэсу і урадам, заахвочваюцца;

• праекты, якія будуюць і выкарыстоўваюць нацыянальныя і міжнародныя кааліцыі, заахвочваюцца;

• праектам, якія рэалізуюцца ў канкрэтных прадуктах, такіх як надрукаваныя матар'ялы, і прымаюць удзел у актыўнай абароне, супрацоўніцтву са СМІ, аддаецца перавага;

• праекты тэрмінам на 1-2 гады заахвочваюцца.

### *Прыярытэты Дома Волі*

(кантактуйце з ДВ,
бо прыярытэты могуць
мяняцца з часам):

1. Зьнешняя палітыка і бясьпека, напрыклад, інтэграцыя ў Эўрапейскі Зьвяз, бясьпека ў рэгіёне.
2. Кіраўніцтва і грамадзянская супольнасьць, напрыклад, рэформы мясцовага кіраваньня, грамадзкая саправаздача, вобраз трэцяга сэктару.
3. Эканамічныя зьмены і разьвіцьцё, напрыклад, эканамічныя эфэкты карупцыі, прыватызацыі, рэформы падатковай і пэнсіённай сыстэмы.
4. Правы меншасьцяў, напрыклад, этнічная талерантнасьць і вырашэньне канфліктаў.

### *Віды дзейнасьці, якія адпавядаюць грантам*

(наступнымі не абмяжоўваюцца):

1. Агульнае дасьледаваньне палітыкі, адукацыі і абарона сумесных рэгіянальных праблемаў;

2. Перайманьне праектаў-мадэляў з адной краіны ў іншую тых зь іх, што рэалізуюцца ў разьвіцьці адкрытых палітычных і эканамічных сыстэмаў і сталай грамадзянскай супольнасьці праз здвойваньне й іншыя мэханізмы;

3. Умацаваньне фармальных і нефармальных сетак працы падобна арыентаваных НДА, каб разгледзець агульныя праблемы.

**КАНТАКТЫ:**

18 Menesi ut, 1118 Budapest, Hungary
Tel/fax: (361) 385 3108, 385 0985, 466 9879
E-mail: fh@freedomhouse.hu
Website: http://www.ngonet.org

***Галоўны офіс Дома Волі:***

1319 18th Street, NW, Washington, DC 20036, USA
Tel: (1 202) 296 5101. Fax: (1 202) 296 5078
альбо (1 202) 296 5256
E-mail: fh@freedomhouse.org
Website: http://freedomhouse.org

***Іншыя офісы Дома Волі:***

Thomas Masaryk Street, Nr.1, Bldg.B, Level 2, Apt.10
Bucharest, Romania
Tel/fax: (401) 312 4182. e-mail: fhguseth@mnd.ro
Vul. Mala Zhitomirska 5, Kv 55
Kyiv 252001, Ukraine
Tel: (380 44) 228 3128. Fax: (380 44) 228 3845
e-mail: freedom@carrier.kiev.ua

Вы можаце атрымаць формы заяў на Гранты рэгіянальных праектаў НДА на вэб-старонцы ДВ ці папрасіць іх у Выканаўчым Бюро Асамблеі Беларускіх НДА.






## «Выдавецкі інфарматар»

Цэнтар «Выдавецкая ініцыятыва» прапануе вашае ўвазе свой досыць адметны часапіс «Выдавецкі інфарматар». У ягоных нумарах усе, хто мае дачыненьне да журналістыкі, афармленьня выданьняў, паліграфіі могуць знайсьці для сябе шмат новага - бо, як гэта і варта рабіць прафэсіяналам ад выдавецтва, часапіс ня толькі друкуе цікавыя і пазнавальныя матар`ялы па тэорыі і практыцы журналістыкі, гутаркі з карыфэямі выдавецкае дзейнасьці, але і аформлены адпаведна сусьветных стандартаў. Чытач можа адшукаць у часапісу і парады - як распачаць свае выданьне, распаўсюдзіць яго; публікуюцца і рэкамэндацыі юрыдычнага кірунку.




## «Крычаўскі Праваабарончы Весьнік»

Праваабаронцы з Крычава ў сваім выданьні імкнуцца асьвятліць увесь спэктар праблемаў, якія паўстаюць ня толькі перад жыхарамі канкрэтнага райцэнтру, але й актуальныя для ўсёй краіны. Узаемадачыненьні чалавека й улады, абарона правоў грамадзянаў у канкрэтных сытуацыях, зьвесткі пра падзеі грамадзкага жыцьця ды шмат чаго іншага можа знайсьці чытач на старонках Весьніку. Ягоныя стваральнікі падыходзяць па публікацыяў з мэтаю ня толькі паведаміць пра той ці іншы факт, але й дапамагчы тым, хто апынуўся ў цяжкай сытуацыі.

## ГІСТОРЫЯ КРАІНЫ ПАЧЫНАЕЦЦА ЗЬ ГІСТОРЫІ ЎЛАСНАЙ СЯМ'І

**Грамадзкае аб'яднаньне «Дыярыюш» пры ўдзеле Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны, Таварыства беларускай школы і Згуртаваньня беларускай шляхты абвяшчае конкурс «Мой радавод: лёс сям'і ў дваццатым стагодзьдзі».**

У конкурсе могуць браць удзел вучні сярэдніх навучальных установаў (пачынаючы зь 7 клясы). Форма конкурснай працы адвольная: сачыненьне, эсэй, інтэрвію, фотакаляж, фільм і інш. Калі праца нятэкставая, да яе павінна быць далучаная пісьмовая частка, якая адлюстроўвае працэс дасьледаваньня альбо заключае камэнтар да крыніцаў. Працу пажадана пісаць на беларускай мове, яе можна выконваць індывідуальна альбо групай, самастойна альбо з дапамогай куратара. Да працы абавязкова павінна быць далучаная анкета ўдзельніка з прозьвішчам, імем удзельніка, яго каардынатамі і назвай працы, а таксама з прозьвішчам, імем і каардынатамі кіраўніка.

Працу трэба даслаць у адным асобніку да 1 траўня 2001 года на адрас: «Блізкая гісторыя», а/с 128, 220064, Мінск.

Вынікі конкурсу будуць абвешчаныя 8 ліпеня 2001 года.

Усю патрэбную інфармацыю, парады і брашуру з умовамі конкурсу можна атрымаць у сакратара конкурсу Ірыны Коваль (тэл. 8-017 2275109) ці па пошце: «Блізкая гісторыя», а/с 128, 220064, Мінск.

## ДЗЯДЫ - 2000

20 кастрычніка сёлета адбылося паседжаньне кіраўніцтва Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне» і Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі - БНФ. Былі прынятыя плян правядзеньня Дня памяці продкаў Дзяды.

**29 кастрычніка (нядзеля):**
**а 11.30 - *пачынаецца збор удзельнікаў у сквэры* на бульвары Талбухіна /ст. м. «Парк Чалюскінцаў»/.**

*12.00 - 15.00* - шэсьце па пр.Скарыны ў бок Курапатаў. У адпаведнасьці са старажытнай хрысьціянскай традыцыяй людзі будуць несьці сьвечкі і крыжы - сімвал Ахвяры і жыцьця вечнага.

*15.00 - 17.00* - мітынг-рэквіем у Курапатах. Усталяваньне крыжоў на магілах ахвяраў камуністычна-імпэрскіх рэпрэсіяў. Мерапрыемствы дазволеныя гарадзкімі ўладамі. Прэсслужба Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі - БНФ

## «ХРОНІКА БЕЛАЙ РУСІ»

**Выйшла з друку кніга Алеся Белага «Хроніка Белай Русі», вынік 5-гадовага дасьледаваньня аўтарам сярэднявечных і навачасных крыніцаў (пераважна заходнеэўрапейскіх), якія згадваюць сучаснае імя нашай краіны.**

З «Хронікі...» можна даведацца, калі і пры якіх абставінах узьнікла назва «Белая Русь», да якіх тэрыторыяў яна дастасоўвалася, як і чаму зьмяняла свой сэнс, і як нарэшце «прывандравала» на тэрыторыю сучаснай Беларусі.

Неўзабаве кніга мусіць зьявіцца ў продажы на кніжных выставах, у ТБМ, «Акадэмкнізе». Замовіць кнігу магчыма таксама праз тэлефон у Менску: 264-70-26.

## УВАГА, ЭКОЛЯГІ!

**Незалежная экалягічная нідэрляндзкая арганізацыя Milieukontakt Oost-Europa у межах двухгадовай праграмы «Умацаваньне пазыцыяў грамадзкіх экалягічных арганізацыяў на Беларусі» запрашае беларускія грамадзкія экалягічныя арганізацыі да ўдзелу ў конкурсе праектаў па правядзеньні грамадзкіх кампаніяў.**

Праекты, якія прапануюцца, павінны быць накіраваныя на прыцягненьне ўвагі грамадзкасьці да дзейнасьці экалягічных НДА, што ў сваю чаргу дазволіць ім умацаваць свае пазыцыі ў грамадзтве. Максімальная сума, якая выдзяляецца на праект, эквівалентная NLG 2000. У выніку конкуру плянуецца адабраць каля пяці арганізацыяў-пераможцаў. Заяўкі на ўдзел прымаюцца да 15 лістапада 2000 г. Адбор ўдзельнікаў будзе праводзіць Millieukontakt Oost Europa супольна са сваім беларускім партнэрам Міжнароднай грамадзкай арганізацыяй «Экалягічная ініцыятыва «Бурэнка». Вынікі конкурсу будуць аб'яўленыя да 1 лютага 2001 г. Падрабязную інфармацыю аб умовах конкурсу, а таксама форму заяўкі можна атрымаць па наступных адрэсах:

Уладзімір Калтуноў
МГА «Бурэнка»
Веры Харужай, 16
220123 Менск, Беларусь
тэл/факс 375 172 - 347157
факс: 31 20 - 6391379
эл.пошта: burenco@user.unibel.by

Suzanne Bakker
Milieukontakt Oost Europa вул.
The Netherlands P.O.Box 18185
NL-1001 ZB Amsterdam,
тэл: 31 20 - 6392716
s.bakker@milieukontakt.nl

**18-19 лістапада**
**Асамблея дэмакратычных няўрадавых арганізацыяў ладзіць сустрэчу-дыялёг на тэму**

### «Грамадзкія экалягічныя арганізацыі: публічнасьць дзейнасьці перад пагрозаю дээкалягізацыі краіны».

На думку арганізатараў сустрэчы, у краіне недастаткова задзейнічаны грамадзкі фактар у пытаньнях аздараўленьня навакольнага асяродзьдзя, захаваньня нацыянальнай прыроднай спадчыны, волявыяўленьня людзей у форме пратэстаў (пікетаў, шэсьцяў і інш). Пры гэтым захоўваецца становішча, калі няўрадавыя экалягічныя арганізацыі не зацікаўленыя ў публічнасьці сваёй дзейнасьці, абмяжоўваюцца справаздачамі перад грантадаўцамі і фактычна закрытыя ад шырокай беларускай грамадзкасьці . Тым часам, ход выкананьня «зялёных» праектаў, цікавыя грамадзкія ініцыятывы і іх рэалізацыя ёсьць самім жа рэзэрвам разьвіцьця масавага экалягічнага руху, стымулам і прыкладам для тых, хто гатовы ўключыцца ў барацьбу за здаровае навакольнае асяродзьдзе, але яшчэ не ўключыўся. На сустрэчу-дыялёг запрашаюцца прадстаўнікі фондаў і грамадзкіх арганізацыяў, навукоўцы і журналісты, якія пішуць на тэму навакольнага асяродзьдзя. Інфармацыя аб месцы і часе правядзеньня круглага стала будзе паведамлена дадаткова. Аб сваім удзеле паведамце да 12.11.2000 у Выканаўчае бюро Асамблеі па тэл.\факсе 206-59-09, e-mail: ngo@user.unibel.by

**УВАГА!**
*Выканаўчае бюро Асамблеі дэмакратычных няўрадавых арганізацыяў зьмяніла адрас. Цяпер да нас трэба зьвяртацца наступным чынам:* **Менск 220030, аб. скрыня 82. Тэл. 206-59-09.**

Наш адрас:

**п/с 82, Менск, 220030**

**Калі вы не атрымоўваеце наш бюлетэнь, а жадаеце гэтага – дашліце купон на наш адрас.**

Арганізацыя: ____________________

Імя: ____________________

Паштовы адрас: ____________________

____________________

Тэлефон: ____________________

E-mail: ____________________

**БЮЛЕТЭНЬ №6**
**КРАСАВІК 2000**

Матар'ялы падрыхтаваны Выканаўчым Бюро Асамблеі Дэмакратычных Няўрадавых Арганізацыяў

Адрас: п/с 82, Менск, 220030
E-mail: ngo@user.unibel.by
http//ngo.unibel.by

Наклад 299 асобнікаў
Выходзіць раз на месяц
Распаўсюджваецца бясплатна

Пры перадруку спасылка на бюлетэнь абавязковая